Пралетары ўсіх краёў, злучайцеся!

# Паляўнічы Беларусі

Орган Беларускага прамыслова-коопэрацыйнага саюзу паляўнічых

1930 № 3
Сакавік





Кулак на паляваньні.

№ 3

# Паляўнічы Беларусі

1930 году.

Штомесячная часопісь „Белкоохотсоюза“

ПАДПІСНАЯ ПЛАТА:

На год . . . . . 2 р.
„ 6 месяцаў . . . . 1 р. 20 к.
„ 3 месяцы . . . . 70 к.

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
Менск, Савецкая, 71, тэлефон 405.

ЗЬМЕСТ.



**Першы і другі нумары часопісі „Паляўнічы Беларусі“ 1930 г. разышліся. Не атрымаўшым гэтых нумароў будзе выслана каштоўная кніжка выданьня „Паляўнічы Беларусі“.**

## Мы павінны:

**па баявому перабудаваць усю працу сыстэмы;**
**разброіць як мага хутчэй кулацтва.**

## Наша задача:

**дапамагаць калектывізаваць сельскую гаспадарку;**
**цэнтр цяжару работы перанесьці ў калгас;**
**арганізаваць у кожным калгасе і саўгасе паляўнічую ячэйку.**

## Больш увагі:

**коопэраваньню батракоў, беднякоў і калгасьнікаў.**

# Не стаяць у баку ад вялікага шляху.

Матар'ял, сабраны брыгадай „Паляўнічага Беларусі“, які мы друкуем у сёнешнім нумары, гаворыць аб тым, што большасьць нізавых зьвеньняў сыстэмы паляўнічае коопэрацыі значна адстаюць ад новых запатрабаваньняў жыцьця.

Большасьць таварыстваў працягваюць працаваць па-старому, старымі формамі і мэтадамі, якія з сучаснасьцю нічога агульнага ня маюць. А між тым посьпехі калгаснага будаўніцтва, якія мы зараз маем, патрабуюць ад нас мабілізацыі сіл і ўвагі і паляўнічай коопэрацыі.

Устарэлі зараз развалжаньні аб тым, што паляўнічая коопэрацыя толькі для паляваньня. Цяпер паляўнічая коопэрацыя, як і іншыя грамадзкія арганізацыі, павінна стаць на службу соцыялістычнаму будаўніцтву. У нас няма і не павінна быць ніводнае арганізацыі, ніводнага аб'яднаньня, якія-б ня служылі гэтай вялікай справе.

Асабліва зараз у пэрыяд абвостранае клясавае барацьбы на вёсцы, якая выклікана шпаркім тэмпам калектывізацыі сельскай гаспадаркі, калі кулак—клясавы вораг—перайшоў да самых актыўнейшых мэтадаў барацьбы супроць будаўніцтва соцыялізму, ня спыняючыся перад тэрорыстычнымі актамі над прадстаўнікамі партыі і ўраду на вёсцы, паляўнічая арганізацыя ў гэтай клясавай барацьбе з сваім ворагам можа і павінна шмат чаго зрабіць.

# Разброіць клясавага ворага.

Ні для каго не сакрэт, што большасьць забойств прадстаўнікоў партыі і ўраду ўчыняецца кулакамі на вёсцы з паляўнічых стрэльбаў. Гэта значыць, што значная колькасьць кулакоў, ня гледзячы нават і на чыстку, засталіся ў саюзе паляўнічых і што нават і ў выключаных з саюзу кулакоў не ва ўсіх адабраны стрэльбы.

Гэта не агульныя развалжаньні, а сапраўднасьць. Матар'ял, набыты брыгадай, гэта пацьвярджае:

Мазырскае акруговае таварыства хадайнічала перад адміністрацыйным аддзелам АВК аб выдачы стрэльбы пазбаўленаму ў правох былому гарадавому, матывіруя гэта тым, што ён стары і шкоды ня зробіць. Гэтае-ж таварыства аднавіла ў саюзе паляўнічых кулака Іскрыцкага, якога зараз саадпаведныя арганізацыі саслалі ў Салаўкі. У гэтым-жа самым таварыстве зусім ня было чысткі паляўнічай арганізацыі ад кулацтва і іншага варожага элемэнту.

Ня дзіва, калі пры такім становішчы ў акруговым цэнтры, старшыня Калінкавіцкага райбюро паляўнічых зусім нічога ня ведае і ня чуў пра чыстку саюзу.

Такое становішча мы маем і ў цэлым шэрагу іншых таварystваў (Ворша, Койданава і Пухавічы Менакругі).

— Старасьць, паляўнічы стаж прымаюцца пад увагу некаторымі таварыствамі (Мазыр, Магілеў, Менск) пры выключэньні з саюзу кулака—клясавага ворага, які ўпарта супраціўляецца нашым мерапрыемствам па калектывізацыі сельскай гаспадаркі.

Факты гэтыя сьведчаць аб тым, што некаторыя таварыствы скаціліся з клясавых рэек.

## *Не адставаць ад тэмпу будаўніцтва соцыялізму.*

Прызнана агульна вядомым фактам, што да гэтага часу праца „Белкохотсоюза“ ў большай частцы зводзілася да гандлю. На прамысловае вядзеньне паляўнічай гаспадаркі амаль зусім ніякай ўвагі не звaрачалася. Асноўнай працай прызнаваўся гандаль, а іншыя галіны працы былі ўсе другараднымі. Між тым, як раз наадварот, найважнейшай працай саюзу павінна зьяўляцца прамысловае вядзеньне паляўнічай гаспадаркі, а таму, каб не дапусьціць да поўнага разбурэньня паляўнічай гаспадаркі, мы павінны зьмяніць мэтад нашай працы. Трэба для хутчэйшага і лепшага разьвіцьця нашай паляўнічай гаспадаркі прыцягнуць як мага больш грамадзкіх сродкаў, павялічыць грамадзкую ініцыятыву.

Працаваць толькі на грошы Дзяржавы нельга, грамадзкасьць павінна быць шырока ахоплена нашай працай, пры чым трэба паставіць справу так, каб пры мінімуме выдаткаў атрымоўваўся максымум прыбытку.

Улічваючы, што існуючая структура апарату саюзу на мясцох зьяўляецца ня гібкай, Праўленьне „Белкохотсоюза“ пастанавіла ліквідаваць акруговыя таварыствы паляўнічых і ўсе іх функцыі перадаць раённым і гарадзкім таварыствам. Такім чынам раённыя і гарадзкія таварыствы будуць мець юрыдычныя правы, сваіх сталых працаўнікоў, свае сродкі і змогуць узмоцніць сваю работу. Адначасова гэтым скарачаюцца выдаткі на апарат. Апроч таго, зьнішчацца тыя анэкдотычныя зьявішчы, калі паляўнічыя, каб здаць пушніну, шукалі сваіх райупаўнаважаных на паравозах у дэпо чыгункі, у клюбе, школе, на пасяджэньнях райкому і бюро парт'ячэек, трацячы на пошук упаўнаважанага ад 2 да 10 гадзін у дзень, што зьяўляецца ганебным фактам у нашай працы.

Раённыя і гарадзкія таварыствы пасьля рэарганізацыі павінны ў тэрміновым парадку дэталёва і вельмі ўважліва абмеркаваць плян сваёй працы, асабліва пытаньне аб прамысловым вядзеньні паляўнічай гаспадаркі свайго раёну (утварэньне заказьнікаў, зьверагадоўля, разьвядзеньне трусоў і інш.).

Штучнае прыпіскі паляўнічых угодзьдзяў да асобных паляўнічых ячэек-калгасаў, вёсак, гарадоў і інш. у нашых умовах не патрэбна. Замест штучнае прыпіскі мы павінны кары-

Характэрна, што ў таварыствах, дзе чысткі саюзу ад клясава-варожых элемэнтаў ня было, ці не даведзена да канца, там з коопэраваньнем батрацтва і беднаты справа абстаіць з рук вон кепска. Прыкладам для гэтага зьяўляецца Мазырскае таварыства. З фонду коопэраваньня беднаты ў суме 300 руб. скарыстана толькі 46 руб. 50 кап. Тут-жа былі факты, калі за ўлік фонду коопэраваньня беднаты коопэравалі заможніка.

## За ахову калгаснай маемасьці.

Не знайшла належнай увагі на мясцох і дырэктыва аб удзеле паляўнічых у ахове калгаснай маемасьці. Бюрократы з Аршанскага таварыства лічаць, што ахова калгаснай маемасьці ў пэрыяд такой абвостранай клясавай барацьбы—рэч зусім непатрэбная і паклалі дырэктывы „Белкохотсоюза“ пад спуд.

Усіх фактаў уступак кулаку, галавацяпства і бюрократызму не пералічыш, іх вельмі шмат.

Праўда, мы маем і такія таварыствы, якія пачалі працаваць па-новаму—у ногу з жыцьцём. Так, напрыклад, Гомельскае таварыства прымае актыўны ўдзел у калгасным будаўніцтве і вылучыла для гэтае мэты з агульнага гадавога прыбытку 15 проц. сродкаў. Смалявіцкае таварыства на сваім апошнім раённым сходзе паляўнічых абгаварвала такія пытаньні, як удзел у вясеньняй пасяўной кампаніі, калгасным будаўніцтве і соцспаборніцтве. Рэчыцкае таварыства абгаварвала пытаньне сяўбовай кампаніі, перавыбары сельсаветаў, юбілей Чырвонай арміі і арганізацыю каманд па ахове калгаснай маемасьці.

Зрух некаторы ёсьць, але-ж ён толькі ў некаторых мясцох. Большасьць таварыстваў, райбюро і ячэек працягваюць жыць і працаваць па-старому.

## Перабудаваць працу сыстэмы.

Так далей працягвацца ня можа. Зьнізу даверху павінна быць перабудавана сыстэма ўсёй працы „Белкохотсоюза“. Мы ня можам дапусьціць, каб такая грамадзкая арганізацыя, як „Белкохотсоюз“, якая налічвае 30.000 паляўнічых, стаяла-б у баку ад вялікага шляху.

Мы зусім ня думаем і не патрабуем ад кіраўнікоў паляўнічай арганізацыі, каб у адну гадзіну перарабіць усё па-новаму. Сьпешка ня дасьць ніякай карысьці. Але-ж стаяць на мёртвым месцы, чакаць інструкцый і дырэктыў, чакаць покуль нешта само прыдзе, у той час, калі паляўнічая маса стукае ў дзьверы, мы таксама не павінны. Ня спаць, па баявому і зараз-жа трэба пачаць перабудоўваць усю працу сыстэмы.

Пачатак гэтай перабудовы павінен, бязумоўна, быць з ачышчэньня саюзу ад клясава-варожых элемэнтаў. Мы гэта пытаньне ставім першым таму, што яно ў сучасны момант мае актуальнейшае значэньне, памятаючы, што кулак-паляўнічы ўзброен стрэльбаю. Пры правядзеньні гэтае працы не павінна мець месца ўступак кулаку па „старасьці і стажу“.

Генэральная чыстка, якую мы правялі ў 1928-29 годзе, гэта толькі пачатак працы па ачышчэньні саюзу. Чыстку неабходна працягнуць, праверыўшы зараз дэталёва, хто застаўся зараз у саюзе паляўнічых, устанавіўшы надалей дакладны соцыяльны вучот паляўнічых. А такія арганізацыі, як Мазырская, дзе ў гэтым напрамку амаль што нічога ня зроблена, павінны зараз-жа прыступіць да генэральнай чысткі саюзу.

## Тварам да калгасу.

Цэнтр цяжару ўсяе работы павінен быць перанесен у калгас і саўгас. Мы ўжо зараз маем ня мала фактаў, калі паляўнічыя зварачваюцца непасрэдна ў рэдакцыю за парадамі, як арганізаваць у калгасе ячэйку паляўнічых, як разводзіць у калектывах трусоў, як арганізоўваць калектыўныя аблавы і г. д.

У нас покуль што няма ніякіх зьвестак з таго ці іншага таварыства аб яго ўдзеле ў арганізацыі працы ў калгасе. Трэба нам заўсёды памятаваць, што, калі мы не арганізуем работу ў калгасе, дык і няма чаго гаварыць пра коопэраваньне калгасьніка, пра арганізацыю справы аховы калгаснай маемасьці паляўнічых, пра добрую арганізацыю працы па неадкладнаму выяўленьню кулацтва ў саюзе паляўнічых і разброеньню яго, пра арганізацыю пушное справы і г. д. і г. д.

стацца існуючымі адміністрацыйнымі граніцамі. У РСФСР жыцьцё прымушае рабіць прыпіску паляўнічых угодзьдзяў да асобных паляўнічых організацый таму, што там паляваць маюць права ўсе грамадзяне, узяўшыя білеты на права паляваньня. У нас жа у БССР справа зусім іншая. Нам баяцца наплыву неорганізаваных паляўнічых няма чаго, бо правам паляваньня карыстаюцца толькі члены нашае коопэрацыі. Таксама няма чаго баяцца наплыву паляўнічых у адно месца паляваньня, бо з акругі ў акругу вялікія каманды паляўнічых езьдзяць з дазволу Праўленьня „Белкохотсоюза“. Што-ж датычыцца выпадкаў, калі паасобныя паляўнічыя зьяўляюцца ў другую акругу ці раён на паляваньне, то гэтаму мы перашкаджаць не павінны, бо паляўнічыя ўгодзьдзі ў БССР неаднолькава багаты дзічай. Пагэтаму, замест паасобных штучных прыпісак, замест раздрабленьня угодзьдзяў паляваньня, кожнае гарадзкое, раённае паляўнічае таварыства, сельская ці калгасная паляўнічая ячэйка павінна карыстацца адным выпрацаваным плянам па раёну і згодна гэтага пляну разьвіваць паляўнічую гаспадарку і карыстацца яе багацьцем.

Жыцьцё патрабуе ад паляўнічых найбольшага ўдзелу ў загатоўцы пушніны і іншай сыравіны, каб быць у ліку перадавых будаўнікоў соцыялізму.

Сільнікаў.

Такім чынам, пытаньне арганізацыі паляўнічых ячэек у калгасах, пытаньне перанясеньня цэнтру цяжару ўсяе працы ў калгас—справа неадкладная, да выкананьня якой мы павінны ўзяцца зараз-жа. Ніводзін калгас і саўгас—без ячэйкі паляўнічых.

Разам з гэтым неабходна тут-жа папярэдзіць некаторыя нашы таварыствы, што перанясеньне цэнтру цяжару працы ў калгас зусім не адзначае спыненьня працы ў тых мясцох, дзе яшчэ не перайшлі на калектыўныя формы вядзеньня сельскай гаспадаркі. У гэтых мясцох мы павінны весьці энэргічную растлумачальную працу сярод паляўнічых за калгаснае будаўніцтва, у гэтых мясцох мы павінны зьвярнуць больш увагі коопэраваньню батрацтва і беднаты і, пры садзейнічаньні апошніх, выяўляць кулакоў у саюзе паляўнічых, вычышчаць іх і разбройваць.

Гэта будзе лепшы мэтад падрыхтоўкі пераходу паляўнічых да суцэльнай калектывізацыі.

## Мабілізаваць увагу мас.

Выканаць стаячыя задачы, ісьці сапраўды ў ногу з жыцьцём мы зможам пры ўмове мабілізацыі ўвагі мас, мы зможам, калі скарыстаем актыўнасьць батрацтва, бядняцтва і калгасьнікаў, мы зможам, калі ў нас ня будзе такіх галавацяпскіх пастаноў пры прыёме ў саюз, як гэта мела месца ў Полацкім таварыстве, калі яно, разглядаючы заяву грам. Русецкіх аб прыёме іх у саюз, пастанавіла: „у прыёме адмовіць пакуль ня будзе абагулена ўся маемасьць у калгас і прадстаўлена даведка ад калгасу“.

Гэта ёсьць ня што іншае, як прымусовы мэтад пасылкі ў калгас, ня што іншае, як удар па серадняку, што і зьяўляецца ўдарам па калектывізацыі, з чым партыя рашуча змагаецца і будзе змагацца.

Лепшага мэтаду пасылкі ў калгас паляўнічых полацкія галавацяпы не знайшлі.

Нам неабходна сапраўдная мабілізацыя творчасьці і актыўнасьці мас, а не такім мэтадам, які мае месца ў Полацку, ня маючыя нічога агульнага з палітыкай партыі.

Крытыка і самакрытыка зьверху данізу, мэтадам соцыялістычнага спаборніцтва і не ў габінэтах, а ўнядрэньнем ідэі соцспаборніцтва ў масах, арганізацыі ўдарных брыгад па выяўленьню ў саюзе кулацтва і разбраеньню яго, брыгад па ахове калгаснай маемасьці і г. д.—можна будзе мабілізаваць актыўнасьць мас.

* * *

Краіна ідзе гіганцкімі крокамі наперад да соцыялізму. Шпаркія тэмпы калектывізацыі руйнуюць усё старое, мёртвае, непатрэбнае. Наша задача не адставаць ад тэмпу будаўніцтва. Мы павінны ісьці ў ногу з жыцьцём.

**Міх. Шмідт.**

Рашуча ўдарыць па тых, хто пакрыўляе лінію партыі.

Ачысьціць паляўнічую каапэрацыю ад кулакоў.

Разгарнуць працу па каапэраваньні батрацтва, беднаты, калгасьнікаў.

Біць па тых, хто пад відам кулака разбройвае серадняка.

Адабраць у кулакоў стрэльбы і перадаць у фонд каапэраваньня беднаты.

# НАША БУДАЎНІЦТВА



Праэкт трусятніка

Усім зараз вядома, што першы год пяцігодкі аднаўленьня паляўнічае гаспадаркі сарван. Чаму так здарылася? Перш-на перш таму, што сам пяцігадовы плян быў вельмі позна зацьверджан. Па-другое, „Белкохотсоюз" ня досыць рашуча абараняў свае пазыцыі ў належных органах, а таму ня былі своячасова дадзены сродкі на ажыцьцяўленьне мерапрыемстваў першага году пяцігодкі; 18000 рублёў „Белкохотсоюз" атрымаў вельмі позна, ужо ў канцы году, і зрабіць што небудзь ня было калі. Апроч таго, у „Белкохотсоюза" ня было і вытворчага пляну, якім-бы ён кіраваўся ў сваёй штодзённай працы. Ня гледзячы на ўсё гэта, „Белкохотсоюз" усё-ж такі мог-бы нешта зрабіць.

Зараз трэба выправіць гэтыя суб'ектыўныя і аб'ектыўныя памылкі. Па вытворчаму пляну, складзенаму зараз на 1929/30 г., уся праца „Белкохотсоюза" па выкананьню пяцігодкі падзелена на наступныя аддзелы: 1. Падлік паляўнічае фаўны. 2. Арганізацыя заказьнікаў. 3. Арганізацыя культурных паляўнічых гаспадарак. 4. Арганізацыя пушна-сырёвай базы. 5. Барацьба з драпежнікамі і браканьерамі. 6. Сабакагадоўля і 7. Культасьветная праца.

Падлік паляўнічай фаўны па вытворчаму пляну прадугледжана праводзіць праз лясное кіраўніцтва і спосабам запаўненьня анкет паляўнічымі ў канцы году з паказаньнем у іх адстрэленай дзічы кожным паляўнічым, а таксама пры дапамозе саміх паляўнічых спосабам нагляду за вучасткамі. Апроч таго, будуць выкарыстаны лічбы НКГандлю па нарыхтоўках пушніны, якія зьяўляюцца зусім вернымі. Вядома, што без падліку фаўны ніяк нельга будаваць і весьці гаспадарку, а таму гэту работу трэба выканаць як мага хутчэй.

Для арганізацыі заказьнікаў, НКЗемам і „Белкохотсоюзом" дадзена дырэктыва на месцы, з паказаньнем кантрольных лічбаў заказьнікаў для кожнае акругі. Да 1929 году лічылася 53 заказьнікі, а юрыдычна аформленых, гэта значыць сапраўдных, толькі 9. Пагэтаму ў 1929-30 годзе трэба было перагледзець усю сетку заказьнікаў і адчыніць некалькі новых. Так, дырэктыва дадзена, але-ж яна ня выканана. Напрыклад, па Віцебскаму таварыству падана на зацьвярджэньне (і на жаль ужо зацьверджаны) заказьнікі, галоўным чынам, на птушак ды і то маленькія на плошчы усяго па 500 гэктараў. Мазырскае таварыства адчыняе заказьнікі ўздоўж дзяржаўнай мяжы, гадуючы дзіч ды зьвера для паноў. Апроч таго, не дакладна ўстанаўляюцца межы гэтых заказьнікаў.

Каб зацьвердзіць заказьнікі, трэба прайсьці некалькі інстанцый і патраціць шмат часу. НКЗем павінен упросьціць яшчэ больш гэтую справу.

Трэба палепшыць ахову і абслугоўваньне заказьнікаў, аслупаваць іх. Лясьніцтвы вельмі кепска адносяцца да аховы іх і былі выпадкі нават парушэньня правілаў паляваньня. Маецца шмат насеньня розных кармавых траў, якое, як толькі будзе спрыяць надвор'е, трэба пасеяць у паляўнічых заказьніках.

Зараз у нас ёсьць адна культурная паляўнічая гаспадарка і адчыняецца другая. Там будзе весьціся інтэнсыўная гаспадарка. У заказьніках мяркуецца утварыць падсадку коз, дзікаў, баброў зайцоў, куніц, вавёрак і арганізаваць у іх гадавальнікі каштоўных пушных зьвяроў, асабліва трусоў.

Кепска толькі, што мала сродкаў. Праўда, ёсьць пастанова ЭКАНА аб перадачы НКГандлем 50 проц. прыбытку, ад экспарта пушніны і 10 проц. ад агульнай сумы загатоўкі пушніны на арганізацыю паляўнічае гаспадаркі, але гэтыя пастановы так і засталіся пастановамі, а грошай так і няма. Нам трэба дабіцца таго, каб пастановы ўраду выконваліся, бо мы і ў гэтым годзе ўпіраемся ў сродкі.

Ужо даўно была дадзена „Белкохотсоюзом" заяўка на імпарт трусоў і серабрыстых лісіц. Была пастанова аб гэтым і Зямпляну, а заяўкі так і ня выкананы. Мала таго ёсьць адказны працаўнік і, якія гавораць што „трусаводзтва—дзіцячая гульня". На гэтай толькі падставе Наркамзем пасьпяшыў урэзаць заяўку „Белкохотсоюза" з 7500 руб. на 3000 руб. Што трусаводзтва пустая справа, можа гаварыць толькі нічога не разумеючы чалавек ці вораг Савецкае ўлады і, менавіта, даводзіць карысьць трусаводзтва—гэта значыць займацца „дзіцячай гульней", бо 1000 руб., патрачаныя на трусаводзтва, мінімальна дае на 10.000 руб. экспартнай пушніны.

„Белкохотсоюз", ня гледзячы на гэта, на свае маленькія сродкі, робіць усё магчымае для разьвядзеньня трусоў. Складзены плян і каштарысы будоўлі трусятнікаў. Робяцца клеткі для трусоў і лісіц. Трусоў трымаць мяркуецца ў невялічкіх сьветлых хатках па 100 шт. у кожнай. Заводзкія трусы будуць жыць у асобных клетках, а прыплод у агульных. Клеткі будуць ня ў хатцы, а навакол яе, каб трусоў хутчэй акліматаваць у беларускіх умовах. Лісаў мяркуецца трымаць у загоне кожнага ў асобным памяшканьні.

І так, калі ў мінулым былі памылкі ў рабоце „Белкохотсоюза", то зараз яны выпраўляюцца, але ёсьць яшчэ асобы і ўстановы, якія „ставяць палку ў калёсы „Белкохотсоюза" і глядзяць на паляўнічую коопэрацыю, як „на беднага сваяка".

Я тут маю на ўвазе водпуск сродкаў. Трэба дабіцца, каб зжыць такія погляды, бо нечага даводзіць аб тым, што паляўнічая коопэрацыя займае не апошняе месца ў нашым бюджэце і калі-б былі адпушчаны своячасова сродкі, то паляўнічая коопэрацыя была-б на першым месцы ў шэрагу іншых коопэрацый.

Аб апошніх мерапрыемствах мы пагаворым у другі раз. **„Охотовед"**



Праэкт трусятніка ў разрэзе

**КОЖНЫ ПАЛЯЎНІЧЫ ПАВІНЕН ВЕДАЦЬ, што вясеньняе паляваньне забаронена, што ўвесну трэба аберагаць карысную для гаспадаркі птаху.**

ным чынам лічбы, згодна якіх рэгулюецца адстрэл і меры аховы і дагляду за жывёлай.

Гэтыя правілы распрацоўваюцца і дэталюющца паводле існуючых агульных правілаў аб паляваньні і пагэтаму ня могуць разглядацца як перавагі для паляўнічых, якія жывуць у месцы паляўнічае гаспадаркі.

З другога боку трэба адзначыць, што ўсякая гаспадарчая дзейнасьць перастае быць такой, калі яна выходзіць з галіны ўплыву гаспадара. Такі выпадак можа быць і тут, калі на тэрыторыі паляўнічае гаспадаркі будуць і часта і ў вялікай колькасьці паляваць пабочныя паляўнічыя, не жадаючыя падпарадкавацца правілам і пляну гэтае гаспадаркі.

Закон павінен абмежаваць паляўнічых, якія вядуць калектыўную гаспадарку ад такіх выпадкаў.

Пэўны посьпех і вынікі будуць дасягнуты ў паляўнічай гаспадарцы толькі ў тым выпадку, калі члены калектыву на тэрыторыі сваёй гаспадаркі будуць мець невялікі вучастак, на якім яны будуць поўнымі гаспадарамі. Які сэнс працаваць і старацца, калі пабочныя, выпадковыя асобы ўсё гэта выкарыстаюць, ці нават проста папсуюць.

У кожнай гаспадарцы павінен быць вылучан невялікі вучастак, называем яго вопытна-паказальным вучасткам, на якім правам гаспадараньня (і вядома адстрэлу) могуць карыстацца выключна члены гэтай ячэйкі, актыўна ўдзельнічаючыя ў вядзеньні гаспадаркі. Пляц вопытна-паказальных вучасткаў павінен быць назначным параўнаўча з усёй тэрыторыяй гаспадаркі, інакш парушыцца прынцып паляваньня для ўсіх. З другога боку ён павінен быць дастаткова вялікі, каб фауна, якая знаходзіцца на іх, магла-б жыць, атрымліваючы на ім усё неабходнае для жыцьця на працягу году, ня выходзячы за межы гэтае гаспадаркі.

Прыступаючы да арганізацыі паляўнічае гаспадаркі мы, воляй-няволяй, павінны пачаць з дасьледчай работы. Мы павінны знайсьці мэтады вядзеньня гэтае гаспадаркі, прыгодныя для нашых умоў, якіх мы зараз ня маем.

Далей трэба высьвятліць прыбытковасьць гаспадаркі. Ня гледзячы на тое, што паляваньне дзяржавай прызнана, як важная галіна народнае гаспадаркі, мы да гэтага часу яшчэ ня маем дакладных лічбавых даных аб яе прыбытковасьці. Таксама ў нас няма і зьвестак аб выдатковай частцы гаспадаркі.



З полем.

Прыбытак ад паляваньня, атрыманы ў выглядзе пушніны, скур, мяса і г. д. павінен разглядацца як драпежніцкі здабыт, ад якога гаспадарка можа і разбурыцца. Так, як відаць, на яго глядзіць і дзяржава. Таму, хоць і ўчыняецца дзяржавай фінансаваньне паляўнічае гаспадаркі, але ўчыняецца гэта ў асьцярожных і невялікіх разьмерах. Дасьцё дакладныя, рэальныя лічбы выдаткаў і прыбыткаў, дадзім і вялікія крэдыты!

Ітак, стаяць дзьве задачы: вывучыць гаспадарку і высьвятліць балянс яе.

Першае, гэта значыць вывучэньне мэтадалёгіі, будзе заключацца ў агульным вывучэньні паляўнічае жывёлы, спосабаў падліку яе, нарміроўцы адстрэлу, у вывучэньні мэтадаў дагляду і пытаньняў аховы зьвяроў і птушак і, урэшце, прыёмаў дзічаразьвядзеньня.

Другое, гэта значыць прыбытак і выдатак і іншыя статыстычныя даныя будуць набывацца ў выніку і сумесна з высьвятленьнем першай часткі.

Што-ж датычыць самай работы вывучэньня гаспадаркі, то яно ўчыняецца на ўсёй тэрыторыі гаспадаркі. Але работа гэта будзе і нават павінна накіроўвацца пераважна ў бок вывучэньня гаспадаркі на вопытна-паказальных вучастках, якія ў гэтым выпадку будуць зьяўляцца нібы пробнымі пляцамі ў нашай дасьледчай працы.

Члены ячэйкі ў першую чаргу ўдзельнічаюць у ахове вучастка. Для гэтага іх абавязкі па ахове дакладна па днях разьмяркоўваюцца між асобнымі членамі шляхам арганізацыі дзяжурстваў.

На працягу вядомага пэрыяду часу кожны з іх павінен знаходзіцца ў вопытна-паказальным вучастку вызначаную колькасьць гадзін, напрыклад, суткі, паўсутак ці менш, строга па расьпісаньню.

Выконваючы абавязкі аховы ў вучастку, абыходзячы яго па межах, пранікаючы ў яго па сьцежках, агледаючы кармовыя месцы, гнеадавыя і інш., кожны член ячэйкі такім чынам добра вывучыць гэты вучастак: склад і колькасьць паляўнічых і інш. жывёл, колькасьць карысных жывёл, драпежных і шкодных, разьмеркаваньне жывёл па ўгодзьдзях, умовы жыцьця і зьмены, якія ўтвараюцца на працягу году ў жыцьці жывёл.

Такім чынам, вучасткі гэтыя пэўна атрымаюць значэньне вопытных, у першую чаргу для саміх членаў гэтага калектыву.

На вопытна-паказальных вучастках члены гэтай ячэйкі карыстаюцца выключным правам паляваньня.

Паляваньне тут, вядома, павінна насіць характар выключна гаспадарчага адстрэлу, г. зн. у першую чаргу адстрэльваюцца старыя, хворыя жывёлы, лішнія самцы ці самкі, а потым трэба сурова прытрымлівацца нормы адстрэлу, якая тут на падставе сталай работы па вывучэньні гаспадаркі ў дакладнасьці можа і павінна быць праароблена.

З гэтае прычыны вопытна-паказальныя вучасткі павінны служыць узорамі таго, як належыць арганізоўваць і весьці інтэнсыўную паляўнічую гаспадарку з дапасаваньнем да яе ўсіх гаспадарчых прыёмаў аж да дзічаразьвядзеньня.

Ад заказьнікаў вопытна-паказальныя вучасткі розьняцца тым, што тут робіцца адстрэл, часьцей за ўсё, вядома, гаспадарчы, недапушчальны ў заказьніках. Плян гаспадаркі (для вопытна-паказальных вучасткаў) распрацоўваецца дэтальна. Усе члены сельячэйкі абавязаны траціць максымум энэргіі на гэту частку сваёй гаспадаркі. Усе запісы па вопытна-паказальнаму вучастку вядуцца асабліва дакладна. Таксама вядзецца падрабязная часопісь назіраньняў.

На вопытна-паказальных вучастках павінны вучыцца вядзеньню паляўнічае гаспадаркі паляўнічыя масы, чаму на выбар угодзьдзяў пад гэтыя вучасткі павінна быць зьвернута асаблівая ўвага.

Для посьпеху справы патрэбны ўгодзьдзі па магчымасьці нязьнішчаныя ад дзічы.

Неабходна дастатковая колькасьць розных угодзьдзяў, тыпічных для даных месц, у якіх-бы паляўнічая жывёла магла хавацца: з вадапоямі, з спрыяючымі кармовымі ўмовамі.

Вучастак павінен складацца па магчымасьці з аднэй непадзельнай плошчы з натуральнымі межамі, аддзяляючымі яго ад суседніх угодзьдзяў.

Трэба мець на ўвазе магчымасьць устанаўленьня рэальнае аховы вучастку.

Выкладаючы сваю думку па пытаньні аб арганізацыі паляўнічае гаспад ркі, павінен дадаць, што ў іншых рэспубліках саюзу, напрыклад, у РСФСР, ужо блізка падышлі да пытаньня пераходу ад „паляваньня“ да „паляўнічае гаспадаркі“. Я маю на ўвазе арганізацыю прыпісных гаспадарак. Вырашыць гэта пытаньне ў РСФСР цяжэй: там правам паляваньня карыстаюцца апрача членаў паляўнічае каапэрацыі і асобы, заплаціўшыя ўстаноўлены дзяржзбор за паляваньне.

У БССР гэтым правам карыстаюцца выключна члены „Белкохотсоюза“. Таму і пераход да паляўнічае гаспадаркі тут ажыцьцявіць лягчэй.

Паляваньне бесспраўздачнае, бесплянавае павінна быць зьнішчана, як разбураючае і аджыўшае свой век. Паляваньне павінна быць пертворана ў паляўнічую гаспадарку.

**А. Р. Штам.**

# Гістарычная даведка



Бой быкоў.

Той, хто азнаёміўся з справаздачамі аб паляўнічай выстаўцы ў Польшчы, якая адбылася ў чэрвені 1929 г., лёгка можа памыліцца, падумаўшы, што зубры знаходзіліся і яшчэ зараз жывуць у палескіх лясох. Апроч таго, справаздача аб выстаўцы, зьмешчаная ў адным з нумароў папулярнае францускае паляўнічае часопісі „L Eleveur" за 1929 г., зусім няверная і блытаная. Аўтар справаздачы ня бачыць ніякай розьніцы між амэрыканскімі бізонамі, зубром і гістарычным турам, а між тым розьніца між імі вялікая.

Ня буду спыняцца на ўсіх бачных розьніцах гэтых жывёлін, напомню толькі, што ў свойскага быка і буйвала 13 пар робраў, у зубра 14, а ў бізона 15. У сучасны момант у Палескіх лясох зуброў няма і апошні быў забіты ў 1917 г. адным з вартаўнікоў Белавескай пушчы. Карыстаемся выпадкам асьвятліць каротка гісторыю паходжаньня зубра па матар'ялах праф. Вусава з дадатковымі весткамі аб апошніх зуброх, якія жылі на волі, па Э. Ляфону і інш. крыніцах.

Амаль што ва ўсіх дылювіяльных пластох Эўропы, асабліва ў Швэцыі, Германіі па Рэйну, у Францыі і Англіі, далей— Сібіры і, урэшце, Паўночнай Амэрыцы, сустракаюцца пры раскопках часткі шкілета быка (Bos priscus Blas), блізкага да зубра і амэрыканскага бізона. З усіх дылювіяльных быкоў, знойдзеных пры раскопках (у тым ліку і Bos primigenius) Bos priscus мае найбольшае геаграфічнае распаўсюджаньне і прытым раней у геалёгічнай гісторыі сьветабудовы.

Праф. Вусаў думае, што сухазем'е паўночнай Азіі было зьліта ў адно цэлае з сухазем'ем Паўночнай Амэрыкі, і па ўсяму гэтаму абшару жыў Bos priscus разам з пахучым быком (Bos palasii) у Сібіры, Bos moshatus у Паўночнай Амэрыцы. Першы даўно ўжо загінуў, патомкі другога жывуць і ў гэты час. Пасьля падзяленьня гэтых матэрыкоў, г. зн. пасьля ўтварэньня грады Алеуцкіх выспаў, фаўна таксама падзялілася і кожная стала абасабляцца. Пахучы бык вымер у Сібіры. Bos priscus пачаў набываць некаторыя зьмены ў Амэрыцы. Сібірскі Bos priscus мала зьмяніўся. Мабыць ляднікoвы пэрыяд і ва ўсякім выпадку, якаясь раптоўная зьмена фізычных умоў прымусіла Bos priscus пакінуць паўночную радзіму і перасяліцца ў больш паўднёвыя краі. Bos priscus, які застаўся ў Сібіры. не зьмяніўся і вымер. Тыя. якія пайшлі на поўдзень, пераважна лагчынамі вялікіх рэк, сталі раптоўна зьмяняцца. Бізон (Bison bonasys), які застаўся да гэтага часу,—бязумоўна патомак Bos priscus.

У Амэрыцы лёс гэтага быка быў іншы. У Эўропе Bos priscus зьяўляецца лясной жывёлай. У Амэрыцы-ж ён паступова з жывёлы лясной зрабіўся пераважна стэпавай. Рост бізона значна зьменшыўся, але пладавітасьць павялічалася. Так з некалі жыўшага Bor priscus у выніку зьмены фізычных умоў, утварыліся дзьве разнастайнасьці, два асобныя самастойныя віды—зубр (Bison bonasys) і бізон (Bison americanus).

Гіпотэзу праф. Вусава прызнае і вядомы ангельскі вучоны Овен. Іншыя вучоныя, як Геснэр, Брынкен, Жыльбер, Палас, Куў'е лічаць зубра зусім за самастойную пароду, за тып зубра, які існаваў без перараджэньня з дагістарычных часоў.

Аб гісторыка-геаграфічным распаўсюджаньні зубра здаўна гавораць наступныя крыніцы: „Historia de Animalibus" Арыстоцеля, Пліній (апісвае двух дзікіх быкоў зубра і тура), Ю. Цэзар у „De bello galleco" Тацыт, летапісец Длугаш у „Гісторыі Польшчы", у песьнях аб Нібелунгах ёсьць паказаньні аб паляваньнях на зубра, польскі летапісец Сангаленскі і інш.

Нашы продкі не рабілі розьніцы між зубром і турам і доўгі час назвы гэтыя лічыліся сынонімамі.

Аднак, з зьяўленьнем твораў аўстрыйскага пасла пры польскім двары ў XVI в. Гербэрштэйна, які цікавіўся жыцьцём жывёл, уяўленьні аб зубры і туры зьмяніліся. Апроч падрабязнага апісаньня тых жывёл, якія ён асабіста бачыў, Гербэрштэйн да сваіх твораў „Rerum Moscovi tarum Comentarii Sigismundi leberi baronis de Herberstein" 1556 г. прыклаў два малюнкі, якія паказваюць адзін—зубра, другі—бязгрывага дзікага быка тура (aurox), якія пладзіліся ў літоўскіх лясох. Апроч Гербэрштэйна цэлы шэраг іншых крыніц таксама сьцьвярджае існаваньне двух асобных відаў дзікіх быкоў у літоўскіх лясох— зубра і тура.

Зубры жылі ў Галіі яшчэ ў часы рымскага панаваньня. У пачатку XV стагодзьдзя зубры жылі вялікімі стадамі ў лясох Чырвонай Русі (Галіцыя) між Саолам і Віслай, а таксама на Падоліі, Крымскай паўвысьпе, Палесьсі і Валыні, у Малдавіі, Польшчы, Літве, Сілезіі, Германіі, Памераніі. На Валыні яны зьніклі разам з лясамі, зьнішчанымі пажарамі. У Германіі яшчэ ў XVI стагодзьдзі адбывалася паляваньне на зуброў. У частцы Літвы, уваходзячай у склад Усходняй Прусіі, зубры пратры-

# Да „Дню птахі“.

## Ад карыснай птахі—карысьць с. г.

Блізіцца вясна, блізяцца дні масавага зьяўленьня птах у нашых лясох, парках, садох, палёх. З лёгкай рукі „юных натуралістых“ вось ужо больш дзесяці год як упяршыню гэты „Дзень“ раней праведзен у Маскве (1928 год), стаў праводзіцца ў савецкіх школах, у піанэрскіх і камсамольскіх арганізацыях, набываючы ў апошнія гады масавы характар. Ужо ў 1927 годзе толькі ў аднэй Маскве ў „Дзень птахі“ прымала ўдзел 6.110 чалавек, пры чым у парках і садох Масквы было разьвешана 1.098 хатак для шпакоў. Судзячы па шматлікіх карэспандэнцыях з месц рух у абарону птах урэшце, і ў нас мусіць стаў паўсямесным, асабліва ў горадзе. У 1928 годзе ў „Дзень птах“ удзельнічала 45.000 юных натуралістых. Разьвешана 13.000 хатак.

Хацелася-б ужо не зайздросьціць чужым посьпехам, але для таго, каб „дагнаць і перагнаць“ карысна для параўнаньня прывесьці некалькі лічбаў з заходняй Эўропы. Пры гэтым будзем гаварыць ня толькі аб ахове птах, але і аб ахове прыроды цалкам.

Так, на апошнім (I м) Усерасійскім Зьезьдзе дзеячоў па ахове прыроды, выявілася, што ва ўсім Савецкім саюзе налічаецца толькі каля 2.000 членаў таварыства аховы прыроды. Лічба гэтая нагля̂дна паказвае, наколькі слаба ўцягнуты ў нас у справу аховы прыроды масы насельніцтва. Праўда, калі прыняць пад увагу моцнасьць арганізацый юных натуралістых, у большасьці выпадкаў, зьвязаных з ідэяй аховы прыроды і птах—у прыватнасьці, налічаючых зараз больш за 1.000 гурткоў, якія аб'ядноўваюць каля 60.000 чалавек моладзі, то малюнак трохі зьменіцца. У Германіі зараз маецца больш за 360 грамадзкіх арганізацый, якія займаюцца аховай прыроды. Сярод іх дзьве ёсьць міжнародныя (Таварыства аховы зубра і турыстычнае „Аматар прыроды“). У аднэй толькі Прусіі ёсьць 235 прыродаахоўваючых таварыстваў, у Баварыі—45, Саксоніі—17 і г. д.

Але самае галоўнае, што розьніць гэтыя арганізацыі—гэта іх актыўнасьць у справе прапаганды і ажыцьцяўленьня ідэй аховы прыроды, якая выяўляецца ня толькі ў вялікай колькасьці літаратуры, але і ў шэрагу навуковых папулярных выданьняў, манаграфій, лістовак, брашур, адкрытак, плякатаў, марак з малюнкамі на іх тых расьлін і жывёлы, якая ахоўваецца. Таксама шмат чытаецца лекцый, арганізоўваецца курсаў, паказваецца кіно фільмаў і інш. культурна-прапагандыцкіх мерапрыемстваў. Напрыклад, у Баварыі ўрадавай камісіяй для аховы птушак за апошнія 13 год распаўсюджана 107.000 штучных гнёздаў; было прачытана з мэтай папулярызацыі ідэі аховы птах 293 лекцыі, якія наведала 50 000 слухачоў, праведзена 42 кароткатэрміновых курсаў з 4.230 удзельнікамі, адчынена 4 вопытных і паказальных станцыі па ахове птах. Ва ўсёй-жа Германіі станцый па ахове птах больш за 10. Пры чым адна існуе з 1876 году; яна была заснавана вядомым папулярызатарам аховы птах Бэрленшэм. Вопытныя станцыі па ахове птах вядуць вялікую практычную работу па выпрацоўцы і вывучэньню новых мэтадаў практычнага ажыцьцяўленьня аховы птах.

У нас-жа ў Савецкім саюзе пакуль толькі біолёгічная станцыя юных натуралістых („БЮН“) у Маскве ставіць сабе падобныя праблемы, а ў большасьці абмяжоўваецца ў лепшым выпадку толькі правядзеньнем раз у год фармальна абстаўленых кампаній „Дня птах“; інтарэсы школьнай моладзі адкладаюцца з-за новых момантаў школьнага жыцьця,—гэта, бязумоўна, галоўнае. Але з наступленьнем летніх канікул, калі большая частка дзяцей аддана сама сабе, іх ня толькі не накіроўваюць хатнім парадкам да аховы прыроды, а, наадварот, шмат дзяцей у гэты час займаецца зьнішчэньнем птах, то з дапамогай рагулькі, то проста камнем, то будуючы ўсякія сілкі, пасткі і інш.

---

маліся да канца XVII веку, галоўным чынам, у лясох між Лабі ваю і Тыльзітам. Апошні свабодны прускі зубр быў забіты браканьерамі ў 1775 г.

У Вэнгрыі зубры пратрымаліся далей, чым у Прусіі. На іх палявалі яшчэ ў 1729 годзе. Апошні свабодны зубр Вэнгрыі быў забіты ў 1775 г. у балотах Жыержыо, каля Удвархэлі. У XVII стагодзьдзі зубры пладзіліся ў шмат якіх лясох Расіі, у Пермі іх, як відаць, было ня менш, чым у Белавескай пушчы. З таго часу, як зубр быў зьнішчаны ў Эўропе і ўцалеў у Літве, яго пачалі называць літоўскім зубром, але і ў Літве ўжо ў XVII стагодзьдзі, з прычыны значнай вырубкі лесу польскія каралі і магнаты для захаваньня гэтай каштоўнай дзічы прымушаны былі ўтвараць асобныя запрэтныя месцы для іх, так званыя зьвярынцы. Такія зьвярынцы былі пад Варшавай, Астраленскай, Белай Царквой.

Апошнім натуральным прытулкам зуброў была Белавеская пушча, вялізарнейшы лясны масыў (усёй плошчы зямлі пад пушчай было 127.598 гэктараў, з якіх удзельнаму ведамству належала 114.994 гэктары і 12.606 гэктараў сялянам) між Брэст-Літоўскам і Беластокам у б. Гародненскай губэрні, зараз адыйшоўшай да Польшчы.

У 1902 годзе ў Белавескай Пушчы налічалася зуброў каля 750, у 1914 г. стада некалькі паменшылася, а менавіта да 700. Усе гэтыя зубры уяўляючыя вялізарную неаднаўляемую каштоўнасьць, былі зьнішчаны нямецкімі акупацыйнымі войскамі, а апошні, як мы ўжо казалі раней, быў забіты ў 1917 годзе браканьерам б. вартаўніком Белавескай пушчы. Другая калёнія зуброў, дакладныя весткі аб якой зьявіліся толькі ў XIX стагодзьдзі, існавала на Каўказе у б. Кубанскай вобласьці між рэкамі Белай і Малай Лабай; думалі, што ў раёне плошчай у 477.000 гэктараў у 1902 г. знаходзілася да 600 зуброў.

Трэба адзначыць, што першыя зьвесткі аб каўкаскіх зуброх, па наслышцы, адносяцца да XVII стагодзьдзя, у 1835 годзе зьявіўся артыкул Эйхвальда, у якім ён казаў аб магчымасьці існаваньня каўкаскага зубра. У 1836 г. камандуючы вайскамі на Каўказе Розен надаслаў у Пецярбург для акадэміі скуру забітай зубрыцы, аднак акадэмік Бэрг выказаў недавер'е аб тым, што надасланая скура належыць зубру; настолькі была вялікая розьніца яе з скурамі белавескіх зуброў, думаючы, што скура гэта адносіцца да азіяцкага дзікага быка гауру.

Да 1860 г. ня было станоўчых доказаў існаваньня зуброў на Каўказе.

У сучасны момант існуе думка, што калёнія каўкаскіх зуброў зьнішчана ў пэрыяд імпэрыялістычнай і грамадзкай вайны. Такая думка заснавана на дакладзе экспэдыцыі Усесаюзнай Акадэміі Навук, спэцыяльна пасланай улетку 1927 г. на Каўказ і незнайшоўшай там зуброў. Не жадаючы, ні ў якой меры, умаляць значэньне і каштоўнасьць працы экспэдыцыі, мы далучаемся да думкі, выказанай у паляўнічым друку т. Зярновым А. А., і думаем, што пытаньне аб поўным зьнішчэньні каўкаскага зубра яшчэ не даказана. Трэба ведаць непраходзімасьць зарасьнікаў лабскіх горных лясоў Абхазіі, каб быць задаволеным параўнаўча нядоўгай работай Экспэдыцыі.

Апроч вольных статкаў, зубры (і помесь іх з бізонамі) існавалі ў колькасьці 60-70 галоў у заолёгічных садох і „Чайном парке“ у Швэцыі.

У 1861 г. пяць зуброў былі злоўлены ў Белавескай пушчы і перасланы ў Царскае Сяло, а адтуль у гатчынскае паляваньне.

Пазьней (1867—1868 г. г.) гатчынскае паляваньне папоўнілася новымі зубрамі ў колькасьці 8 галоў. У 1902 г. у гатчынскім паляваньні налічалася да 19 галоў зуброў (13 кароў і 6 быкоў).

У 1865 годзе з Белавескай пушчы было адлоўлена для князя Блеса ў Мезерыцы (Верхняя Сілезія) 4 зубры (1 бык і 3 каровы), у 1876-1883 г. г. да іх прыбавіўся 1 бык з Бэрліна. З 1893 г. зьвярынец павялічыў сваю плошчу да 11.000 гэктараў і зубры з гэтага году знаходзіліся ня ў загарадках, а на волі. У 1900-1906 г. зьвярынец папоўніўся 5 новымі каровамі з Белавежжа, у 1909 г. і быком з Дрэздэна, у 1920-1922 г.— 1 быком з Расіі.

З 1866 г. па 1924 г.—75 зуброў было забіта на паляваньнях і 10 абменена, 59 штук загінулі ад хвароб, 20 шт. загінула ў выніку боек між быкамі і 60—сталі ахвярай браканьераў.

У красавіку 1902 г. зубр і зубрыца былі адлоўлены з Белавескай пушчы і пераведзены ў маёнтак Ф. Э. Фальц-Файна Асконія Нова (б. Чаплі, зараз дзяржзапрэтнік „Асканія Нова“).

У 1923 г. зуброў у Асканійскім дзяржзапрэтніку знаходзілася 3 шт., помесяў зубра, бізона і свойскае скаціны да 30 галоў.

У 1923 годзе ў Бэрліне было арганізавана міжнароднае таварыства аховы зуброў. Колькасьць членаў гэтага таварыства больш за 700, з якіх 284 ў Польшчы.

Па справаздачы таварыства на 1-е студзеня 1927 г. зуброў ва ўсім сьвеце налічаецца 52 галавы. Больш вестак ад Міжнароднага таварыства да гэтага часу не паступала.

**М. Зубароўскі.**

Добра вядома, колькі губіцца ў кожнае лета дзецьмі гнёздаў, яек, птушанят самых карысных нашых птушак. Вопыт падліку разбураных гнёздаў, які быў нядаўна ўчынен пад Масквой, паказаў, што ня менш 50% гнёздаў разбураецца. (О. Н. Л. 1928 г.).

Ясна, што ўперад за ўсё належыць паклапаціцца аб арганізацыі дзіцячых мас і ў першую чаргу для абароны і аховы нашых карысных птах, бо менавіта ад сялянскае дзетвары, як больш блізкай да прыроды, больш за ўсё і гінуць птахі.

Але практыка арганізацыі аховы птах паказала, што як раз гэтыя неарганізаваныя дзеці ў выпадку іх уцягненьня ў справу па ахове птах, растлумачыўшы ім мэты гэтае аховы, амаль заўсёды становяцца першымі прыяцелямі птах, пэўнымі яскравымі і зайздроснымі абаронцамі тых-жа шпакоў, якіх яны раней зьнішчалі.

У масе дзеці, бязумоўна, пітаюць глыбокія сымпатыі да птах і няма нічога лягчэй, як аб'яднаць іх, менавіта, на гэтай глебе. У гэтай справе рашучая роля належыць школе і той юнацкі рух, які ў нас ужо маецца, канстатуецца, амаль выключна ў школьных арганізацыях (каля 90%).

Пры арганізацыі аховы птах—неабходна высоўваць толькі чыста практычны бок, пэўную выгаду клопату аб птахах, бо меркаваньні „акадэмічныя“ або „аматарскія“—у большасьці выпадкаў ня могуць прымусіць працоўныя масы дарослага насельніцтва патраціць задарма свой вольны час на ажыцьцяўленьне аховы і прыцягненьня карысных птах.

І, вось, калі-б наша працоўная школа, не баючыся падчас пераступіць задаволі вузкія пакуль яшчэ ў гэтым сэнсе афіцыйныя праграмы, выступіла-б у абароны птах, шляхам арганізацыі ня толькі спэцыяльных „Дзён птахі“, але і выкарыстаўшы для гэтай-жа мэты ўсякую экскурсію, усякі іншы „дзень“ напр., „Дзень ураджаю“, „Дзень лесу“, а то і шляхам правядзеньня спэцыяльных дакладаў, лекцый, дзе б выявілася карысная роля нашых карысных птах, соў і інш., а потым былі-б паказаны практычныя спосабы пабудовы штучных гнёздаў, правілы іх пабудовы, спосабы прыцягненьня карысных птах у сады і агароды, то тым самым была-б зроблена вялікая рэальная дапамога ў справе інтэнсіфікацыі сельскае гаспадаркі ў справе падвышэньня ўраджаю.

У сучасны момант масавай калектывізацыі с. г. і пераходу да новых мэтадаў яе вядзеньня, бязумоўна павялічыцца, пасеўная плошча, і пры тым значнае разьвіцьцё атрымаюць так званыя монакультуры (суцэльныя пасевы аднаго віду расьліны). І вось, у гэтым выпадку роля разьвіцьця натуральных прыродных рэгулятараў (хаця-б тых-жа казяўкаядных птах), пазбаўляючых магчымасьці масаваму выплоджваньню шкоднікаў, павінна асабліва ўлічацца кожным буйным калгасам, таму што монакультуры больш падпадаюць небясьпецы папсаваньня, якім-небудзь відам шкодніка, чым „рознастайныя“ культуры, якія даюць адначасна ўмовы для разьвіцьця шкодніка і яго ворагаў. Вось тут школа і павінна выступіць у ролі абаронцы птах, павінна дапамагчы арганізаваць ня толькі ахову, але і прыцягненьне птах на палі, у сады, у гарадзкія зялёныя насаджэньні.

Возьмем зараз другі момант—будаўніцтва новых, соцыялістычнага тыпу гарадоў-паркаў, гарадоў, дзе абавязкова прадугледжваюцца вялікія зямельныя плошчы. Але-ж і тут роля тых-жа казяўкаядных птах вельмі важна, і ўмець засяліць птахамі і захаваць іх у гэтых гарадзкіх зялёных насаджэньнях, зьявіцца задачай дню.

Улічваючы вялізарны рост колектывізацыі вёскі і неабходнасьць падняцьця ўраджайнасьці ня толькі шляхам палепшаньня апрацоўкі зямлі, палепшаньня насеннага матар'ялу і інш., але таксама і пасіленьнем барацьбы з шкоднікамі, якія паніжаюць ўраджайнасьць у нас нярэдка да 50% і больш, прызнаць адным з істотных момантаў у справе сацыялістычнае перабудовы нашае с/г. усямерную ахову карысных птах і прыцягненьне іх у сады, гароды і на палі.

Для гэтае мэты вельмі важна арганізаваць ня толькі ў гарадох, але і ў кожным калгасе, у кожнай сельскай школе гурткі „Прыяцеляў птах“, кіруемыя школай. Гурткі „Прыяцеляў птах“ павінны ахапіць пагалоўна ўсіх дзяцей. Не абмяжоўвацца толькі правядзеньнем „кампаній“ і „дзён“ у справе аховы птах, а весьці сыстэматычную працу ў тым напрамку, менавіта ўключыць у практыку школьных работ—прыгатаваньне птушыных гнёздаў дуплянак, штучных насаджэньняў, спрыяючых гнездаваньню казяўкаядных дробных птах. Весьці падлік і ахоўваць гняздуючых у гумнах дробных соў (сычы, у Палесьсі пралётам.—сіпуха) і растлумачыць насельніцтву карысьць гэтых відаў. Зімойжа абавязкова ўвесьці ў практыку гурткоў адбудову кармушак для дробных птах, для курапатак—з паляўнічых. Члены гуртка „Прыяцелі птах“ павінны быць добра знаёмы з правіламі і тэрмінамі паляваньня, што дапаможа ім сачыць за выкананьнем апошніх і ўстанаўляць выпадкі парушэньня гэтых правіл. Члены гуртка „ПП“ павінны таксама ведаць, якія з птах у нас узяты пад поўную ахову і не дазволены да адстрэлу (глушэц, дрофа).

Але гаворачы аб ахове птах, мне хацелася-б паказаць на адзін з самых шчыльных мэтадаў папулярызацыі аховы прыроды і харaства—гэта на кінематаграфічны фільм. Апошнім сродкам ужо вельмі пасьпяхова карыстаюцца ў Германіі, пры чым для здымку некаторых буйных фільмаў трацілі 15 год работы. Але гэта, вядома, выключныя па цяжкасьці фільмы, звычайна-ж можна шмат зрабіць здымкаў куды хутчэй. Кіно-ленты дэманструюць ня толькі прыгожыя ўгодзьдзі, але і рэдкіх зьвяроў і птах, іх жыцьцё, жыцьцё цэлых калёній птах, жыцьцё балота, жыцьцё апошніх зуброў і інш.

Мне здаецца, што і наша кіно-хроніка не прайграла-б, калі былі-б паказаны добра арганізаваныя „Дні птах“, масавы рух дзяцей з лёзунгамі па ахове птах, работу гурткоў „Прыяцелі птах“. Можна было-б зрабіць ня мала цікавых здымкаў з жыцьця птах у гнёздах, напр., моманты кармленьня птушанят, моманты пабудовы гнёздаў, паказаць птаху на месцы, дзе яна корміцца узімку. У гэтай адносіне ў нас амаль што нічога ня зроблена, а між тым ніводзін від прапаганды так ні даступен масам, як кіно.

Такім-жа чынам, павінны быць выкарыстаны і радыё для шырокай перадачы спэцыяльных папулярных лекцый, дакладаў, гутарак на тэмы аб карысьці птах і іх аховы.

У мэтах бліжэйшай дапамогі мясцовым працаўнікам у справе арганізацыі аховы прыроды рэдакцыя Часопісі „ПАЛЯЎНІЧЫ БЕЛАРУСІ“ ў аддзеле „Перапіска з чытачом“ будзе даваць месца для запытаньняў і адказаў з практычнымі паказаньнямі, напр., паказаньнямі спэцыяльнай літаратуры і інш.

*Праф. А. Фядзюшын.*




„Дзень птах“ у Маскве.

## Мазыр на чорную дошку ЗА.

## пакрыўленьне клясавае лініі, поўную бязьдзейнасьць.

# Мазырскае таварыства абараняе кулакоў.

Мы пачалі праверку працы саюзу паляўнічых па разбраеньні кулака. Вынікі праверкі гавораць аб тым, што нашы арганізацыі на мясцох адстаюць ад праводзімай партыяй палітыкі на вёсцы.

Акругі і раёны ня ведаюць аб фактычным сацыяльным складзе сваіх арганізацый, а таму кулакі, карыстаючыся гэтым, знаходзяцца ў саюзе паляўнічых і твораць сваю справу. Нямала выпадкаў, калі кулакі-паляўнічыя забівалі прадстаўнікоў улады і актыўных працаўнікоў вёскі, пры чым забойствы вытвараліся з паляўнічай зброі.

Замест барацьбы з кулаком у некаторых месцах праводзіцца палітыка абароны кулака. Так, Мазырскае акруговае праўленьне паляўнічых у канцы 1929 году хадайнічала перад адмаддзелам АВК аб выдачы дазволу на хаваньне стрэльбы пазбаўленаму ў правох былому гарадавому (паліцэйскаму) Бараноўскаму, матывуючы тым, што Бараноўскі стары паляўнічы. Кулака Іскрыцкага аднавілі ў правох члена саюзу паляўнічых і толькі тады, калі Іскрыцкага арыштавалі і выслалі, яго зноў выключылі з саюзу.

У Гомелі (раён) да апошняга часу ў праўленьні засядаў кулак, які скрыў сваё сацыяльнае паходжаньне, у сучасны момант ён выключаны.

Чыстка радоў саюзу нездавальняючая. У Гомельскай акрузе выключана ўсяго толькі 135 кулакоў, а ў Мазырскай зусім ніводнага, а калі дзе і вычысьцілі, то акруговаму праўленьню аб гэтым невядома. Таксама нічога ня чуў аб чыстцы і раённы ўпаўнаважаны Калінкавіцкага раёну.

Дрэнна, з рук вон дрэнна, абстаіць справа ўдзелу паляўнічых у ахове калгаснае маемасьці.

У Гомельскай акрузе толькі ў адным Рэчыцкім раёне арганізавана каманда паляўнічых па ахове калгасаў, а ў Мазырскай акрузе ў гэтым напрамку нічога ня зроблена і ня робіцца.

Па сацыяльнаму складу на 1-X 1929 году членаў саюзу паляўнічых лічыцца:

Па Мазырскай акрузе:

| | | |
|---|---|---|
| па I катэгорыі | 35 | чалавек |
| „ II „ | 467 | „ |
| „ III „ | 326 | „ |
| „ IV „ | 214 | „ |
| „ V „ | 4 | „ |
| Усяго | 1046 | чал. |

Па Гомельскай акрузе:

| | | |
|---|---|---|
| па I і II катэгорыі | 1348 | чал. |
| „ III і IV „ | 1526 | „ |
| Усяго | 2874 | чал. |

З гэтых лічбаў відаць, што 2-й катэгорыі—батрацтва і беднаты зусім мала ў саюзе.

Фонд каапэраваньня беднаты скарыстоўваецца слаба, няправільна і не па прызначэньні. Мазыр з гэтага фонду ў 300 рублёў—каапэраваў 17 чалавек на суму 46 руб. 50 кап., а астатнія сродкі ў суме 253 р. 50 к. скарыстаў на іншыя патрэбы. У Гомелі з фонду ў 425 р. 82 к. каапэравана толькі 45 беднякоў з выдаткам па 3 руб. на кожнага.

Касы ўзаемадапамогі ні ў Мазыры, ні ў Гомелі, а таксама і ў раёнах не працуюць. Бязумоўна, праверка аказалася сваячасовай.

Нам трэба рашуча ўзяцца за чыстку радоў нашага саюзу ад кулацка-варожых элемэнтаў. Трэба ўстанавіць фактычны сацыяльны склад саюзу паляўнічых. Узмацніць каапэраваньне беднаты, батрацтва, калгасьнікаў, ажывіць і наладзіць працу кас узаемадапамогі. Падняць культурнасьць і грамадзкасьць паляўнічых.

Узброены атрад паляўнічых Беларусі павінен быць у першых радох па выкананьні дырэктыў камуністычнай партыі па будаўніцтву і ахове калгасаў.

**Сільнікаў.**

# Кулакі ў калектыве.

*(Пухавіцкі раён).*

Бюро калектыву паляўнічых зусім адстала ад жыцьця. Так, там ня ведаюць аб сацыяльным складзе сваіх членаў. Колькі выбыла кулакоў з саюзу ў зьвязку з чысткай—ці маюцца яны ў калектыве, зараз невядома. Стрэльбы ў кулакоў не адбіраліся. Адна толькі стрэльба была адабрана і тая пастаўлена на камісію. Зьвесткі ў міліцыю аб выключаных з саюзу райбюро не даваліся, а таму міліцыя працуе без дапамогі саюзу. Частка стрэльбаў міліцыяй перададзена для аховы калгасаў.

Бедната слаба ўцягнута ў працу і ў прыватнасьці—па выяўленьні кулацтва ў саюзе. Праца па каапэраваньні беднаты не разгорнута. Фонду каапэраваньня няма. Ніякай установкі паляўнічыя ячэйкі ня маюць, дзякуючы чаму важная праца—як разбройваньне варожых элемэнтаў, кульгае. Райбюро ніякага ўдзелу ў калектывізацыі ня прымае.

Трэба падштурхнуць Пухавіцкае райбюро да працы.

Брыгадзір **Алесіч.**

# Займаюцца толькі пастановамі.

**Строчил секретарь. От работы в мыле: постановили—слушали. Слушали—постановили**
**Маяковский.**

Аршанскае т-ва паляўнічых да другой паловы 1929 г. знаходзілася ў стане сьпячкі. Толькі новае праўленьне некалькі пачало працаваць—і то накіроўваючы сваю дзейнасьць, галоўным чынам, на гандаль. Такая-ж работа, як арганізацыя паляўнічае гаспадаркі, культасьветная, масавая і да гэтага часу стаіць на мертвым месцы. Слабы ўдзел паляўнічых і ў мерапрыемствах на вёсцы, праводзімых партыяй.

Праўда, праўленьне выносіла добрыя пастановы аб соцспаборніцтве, аб удзеле паляўнічае арганізацыі ў калектывізацыі вёскі, але гэтыя пастановы так і засталіся пастановамі. Мала таго, пастановы вынесены і не пасланы ў раёны. Калі-ж яны дойдуць да паляўнічых ячэек, у масы? З такімі тэмпамі аршанскія паляўнічыя прасьпяць усё.

Нічога практычнага т-ва не рабіла ў справе сацыялістычнае перабудовы вёскі. Рэўкамісія, якая складаецца з такіх аўтарытэтных працаўнікоў, як пракурор Кудзельскі, АППО акругкому Бутор ні разу ня толькі не правяралі работы праўленьня, але ня былі ні разу на пасяджэньнях праўленьня.

Пытаньне ачышчэньня т-ва ад пазбаўленых правоў і варожых элемэнтаў прапрацавана кепска: на 27-II 1930 г. т-ва складаецца з 2133 членаў, з іх I-й кат.—43, 2-й—857, 3-й—626, 4-й—604 і 5—3 члена. Не перарэгістравалася яшчэ 608 чалавек. Што сабой уяўляюць гэтыя 608 чалавек і чаму яны не перарэгістраваліся—праўленьне аб гэтым ня ведае.

Ці пазбавілася т-ва ад пазбаўленых правоў ды варожага элемэнту, праўленьне станоўча адказаць ня можа. Зараз у вёсцы ўтвараецца пераабкладаньне некаторых сялян сельска-гаспадарчым падаткам. Некаторых паляўнічых даабклалі індывідуальна, а што праўленьне зрабіла для таго, каб праверыць яшчэ раз склад таварыства? Мусіць нічога—сьпіць праўленьне, праспала калектывізацыю, праспала і чыстку сваіх радоў. Таксама міма праўленьня т-ва праходзіць і работа па разбраеньню варожага элемэнту. Па вестках міліцыяй канфіскавана каля 630 стрэльбаў. А як ідзе разьмеркаваньне гэтых стрэльбаў, ні міліцыя, ні т-ва паляўнічых нічога ня ведаюць. Вядома толькі, што па Аршанскаму раёну ніводнае стрэльбы ў т-ва паляўнічых не паступіла. Міліцыя шырока практыкуе выдачу дазволаў на права хаваньня стрэльбаў, якіх выдана да 1000.

Трэба акруговаму т-ву весьці сваю работу ня толькі па гандлёвай частцы, трэба не забываць галоўнага—удзел у правядзеньні мерапрыемстваў партыі, у ачышчэньні сваіх радоў ад кулакоў і падкулачнікаў, трэба, урэшце, узяцца і за паляўнічую гаспадарку, уцягнуўшы ва ўсю гэтую работу шырокія масы паляўнічых. Брыгадзір **Сьмірноў.**

# Чакаюць даведак фінчасткі.

Койданаўскае раённае т-ва паляўнічых (Менск. акр.) абнядаўна перайшло на гаспадарчы разьлік. Абрана праўленьне т-ва. У цэнтры м-ка Койданава ёсьць паляўнічая крама. Заходжу туды. Некалькі камісійных разьбітых стрэльбаў чакаюць, пакуль іх купіць хто-небудзь ды сатрэ пыл і плесень, якой яны абрасьлі за час стаяньня ў краме. У скрынцы пад шклом з пяток баскоў для аздабленьня вуд. І куніца, і лісіца, з дзесятак зайцоў вісяць на сьценцы, вось і ўвесь тавар „крамы“ Койданаўскага т-ва паляўнічых.

— Ну, як, вялікія страты будуць?—пытаюся я ў т. Паўлюца, які зьяўляецца і сакратаром т-ва, і зам. старшыні, і самім старшынёю і кім хочаце ў Койданаўскім „гуртку паляўнічых“.

— Не, магчыма і зьвядзем канцы з канцамі,—адказаў той.—Быў-бы і прыбытак, каб „Белкохотсоюз“ задавальняў таварамі, асабліва мехавымі.

— А як у вас рэалізаваны стрэльбы кулакоў, якія выключаны з саюзу? Кулакі самі іх рэалізавалі праз магазын, ці перапрадалі, ці былі адабраны ад іх бяз грошай і адданы ў фонд каапэраваньня беднаты?

— У нас ня было дырэктывы аб гэтым,[1]) а таму стрэльбы ў кулакоў не адбіраліся. Яны часткай самі рэалізавалі, а часткай праз наш магазын. А то быў выпадак, што кулак Трусэвіч адну стрэльбу здаў у магазын на камісію, а другую схаваў і міліцыя адабрала. Быў і такі выпадак, што кулака Санкоўскага мы выключылі з саюзу, а міліцыя дала яму дазвол на хаваньне стрэльбы і толькі пагранатрад адабраў яе. Наогул міліцыя кепска дапамагала нам,—заключае кіраўнік Койданаўскага т-ва.

— Кулакоў шмат у вас зараз у т-ве?—стаўлю я проста пытаньне.

— Не... Няма, здаецца, а магчыма?!...

Бяру ўсю папку анкет і рыюся. Наводжу даведку ў фінчастцы РВК і ў выніку... на 1-е сакавіка ў т-ве знаходзіцца некалькі кулакоў, абкладзеных індывідуальным падаткам.

— Справа ў тым, што яны толькі што абкладзены індывідуальна, і я ня мог атрымаць даведкі аб гэтым,—растлумачвае т. Паўлюц.

Але ў гэтым трэба вініць старшыню праўленьня Койданаўскага т-ва, бо ён, зьяўляючыся інструктарам РВК, павінен ведаць, хто абкладаецца індывідуальна.

Калі я ішоў з Койданава на станцыю, я думаў... Я думаў, што кепска яшчэ арганізавана сыстэма паляўнічае каапэрацыі, кепска—зусім кепска працуюць раённыя аб'яднаньні, бо Койданаўскае т-ва лічылася адным з лепшых па працы ў Менскай акрузе, а вынікі дрэнныя.

Брыгадзір **Ц.**

[1]) Па наведзеных спраўках дырэктыва „Белкохотсоюзу“ была дадзена 13-II-30 г. **Рэдакцыя.**

# Узор добрае працы.

„Мы ня можам стаяць у баку ад вялікай работы па сацыялістычнай перабудове вёскі“— такую пастанову вынесла Магілеўскае т-ва. Яшчэ ў сьнежні месяцы праўленьне т-ва дало дырэктыву бюро райкалектываў і сельячэек аб удзеле членаў т-ва паляўнічых у калектывізацыі. Праўленьне падыйшло правільна да гэтага пытаньня, лічачы, што кожны паляўнічы павінен першым запісацца ў калгас і быць застрэльшчыкам у іх арганізацыі. Праўленьне пастанавіла прыняць шэфства над калгасам аднаго з сельсаветаў Магілеўшчыны. Разам з гэтым прынята рашэньне аб зборы сродкаў на трактарную калёну.

Для ажыцьцяўленьня намечаных задаў т ва ўзялася ў першую чаргу за ачыстку сваіх радоў. Перад перарэгістрацыйнай кампаніяй былі даны дырэктывы ачысьціць т-ва ад пазбаўленых выбарчых правоў, кулакоў, варожых да савецкае ўлады элемэнтаў, павялічыць батрацка-бядняцкае ядро т-ва. У выніку ўсе лішэнцы, кулакі і варожы элемэнт выключаны з саюзу (па няпоўных вестках 54 чал.), а сялян беднякоў, вызваленых ад сельгаспадатку павялічылася з 261 на 1/X-29 г. да 568; гэта значыць на 117,6%. Для большага ўцягненьня беднаты быў утвораны фонд у 816 руб. За кошт гэтага фонду каапэравана 89 чалавек (гэта, бязумоўна, мала) і выдаткавана 465 руб. 05 к., г. зн. фонд выкарыстаны толькі на 57%. Трэба адзначыць, што т-ва за кошт фонду каапэраваньня беднаты выдавала пазыкі ня толькі на пай, але і на часопіс „Паляўнічы Беларусі“. У сучасны момант пазбаўленцаў быццам і няма. У раёнах зараз утвараецца даабкладаньне некаторых кулакоў, якія раней ня былі выяўлены і таму зьяўляюцца новыя пазбаўленцы. Праўленьне дала дырэктыву яшчэ раз праверыць сьпісы паляўнічых і ачысьціцца канчаткова ад кулацтва.

Ад усіх выключаных праз міліцыю канфіскаваны стрэльбы. Ужо канфіскавана 274 стрэльбы. Усе яны прадаюцца міліцыяй, што зьяўляецца няправільным. 54 стрэльбы перададзены ў калгасы. На 1-га лютага т-ва складаецца з 2462 членаў, з іх: 1-й катэгорыі 51, 2-й—745, 3-й—726, 4-й—584 і 5-й—13 членаў. Аб 240 членаў няма вестак, да якіх яны катэгорый належаць. Наогул дакладнага вучоту па катэгорыях, г. зн. сапраўднага твару т-ва ў праўленьні няма і кожны раз прыходзіцца рыцца па анкетах.

Пай лішэнцам не зварачаецца, а залічваецца ў капітал таварыства.

Адначасова з гэтым перагледжаны выбарны склад т-ва. Выбарны склад т-ва налічвае 164 таварышоў, з якіх членаў КПБ 45 таварышоў. Па катэгорыях яны падзяляюцца: 1 катэгорыі 1, 2-й—36, 3-й—70 і 4-й—57.

Гэта сьведчыць аб тым, што яшчэ недастаткова ўцягнута бедната і батрацтва ў кіраўніцтва т-вам.

Т-ва прыняла шэфства над калгасам у Пашкаўскім сельсавеце. У гэты калгас ужо выехала брыгада з чатырох паляўнічых на чале з старшынёю праўленьня Сакаловым. Намечана паездка другой брыгады з 5 таварышоў. Кепска толькі, што ў праўленьні акруговага таварыства няма вестак аб тым, што зрабілі бюро райкалектываў у гэтым напрамку.

Брыгадзір **С.**

# Ня толькі гандаль...

Гомельскае акруговае таварыства паляўнічых складаецца з 3592 членаў, з іх I катэгорыі—59, II катэгорыі—1135, III кат.—1051, IV кат.—1331 і V-й кат.—22. Членаў і кандыдатаў КП(б)Б і ЛКСМБ—319.

У выніку чысткі выключана кулакоў і варожага элемэнту 76 і ўцягнута ў коопэрацыю беднякоў і батракоў 370 і рабочых 130. Фонд коопэраваньня беднаты скарыстан на 1-X-29 г. толькі на 38,8 проц., а на сёньняшні дзень поўнасьцю. На першым месцы па коопэраваньню ідзе Рэчыцкі раён.

Па акрузе арганізаваны 105 сельячэек. Ячэйкі ня толькі вядуць выхаваўчую працу, але і практычную па разьмеркаваньню агнябояпрыладаў і нарыхтоўкі пушніны. Соцспаборніцтвам абхоплена большасьць колектываў і частка сельсаветаў, але няма праверкі, як яно праходзіць. На 3-ю пазыку індустрыялізацыі закуплена облігацый на 500 руб. На самалёт сабрана ў сярэднім па 82 кап. на кожнага паляўнічага.

Культ. праца—гэта нашае хворае месца ва ўсёй паляўнічай коопэрацыі, вядзецца кепска—лекцый, гутарак і інш. ня было. Бібліотэкамі задаволены ўсе колектывы, а таксама і буйныя сельячэйкі. Падпіска на часопіс „Паляўнічы Беларусі“ праходзіла добра— усяго на 1930 г. Гомельская акруга дала 1742 падпісчыка. Некаторыя райколектывы, напрыклад, Цэрахоўскі, ня далі ніводнага падпісчыка.

Стралковы спорт не разгорнут. Крытыка і самакрытыка кульгае. Па акрузе выпускаюцца 2 насьценгазэты. З прыбыткаў мінулага году адлічана 15 проц. у фонд трактарнай колёны. Пасылаліся за кошт сродкаў т-ва брыгады ў вёску. Пленумам праўленьня дадзена дырэктыва ўсім колектывам ужыць захады да практычнага ўдзелу паляўнічых у колгасным руху, да ўступленьня паляўнічых у колгас першымі і быць застрэльшчыкамі ў складаньні непадзельных фондаў колгасаў. Прапанавана прымаць самы актыўны ўдзел у абароне маемасьці колгасаў ад падпалаў кулакоў, організуючы ў колгасах каманды добраахвотных вартаўнікоў.

На паляўнічую гаспадарку па акрузе зьвернута недастатковая ўвага. Праўда, кантрольныя лічбы па стварэньню заказьнікаў выкананы, але ўсё-ткі мала праяўлена ініцыятывы для павялічэньня паляўнічых сродкаў. Гандлёвая частка акруговых таварыстваў працуе добра і, ня гледзячы на недахоп тавараў, з магазына ёсьць 3154 руб. 25 кап. прыбытку. Гэта адзінае таварыства ў сыстэме паляўнічай коопэрацыі БССР, якое вышла з прыбыткам. Зварот таварыства за мінулы год ровен 107 тысяч руб., або на 100 проц. больш, чым ў 1927 28 г. У мэтах прыбліжэньня тавараў да пайніка, па акрузе адчынена 5 магазынаў, чым і тлумачыцца такое павялічэньне звароту. Нарыхтоўка пушніны прайшла ня зусім пасьпяхова, кантрольныя лічбы выкананы ня будуць.

У далейшай працы таварыству трэба вывучаць памылкі мінулага году, зьвярнуць яшчэ больш увагі на ўдзел у правядзеньні генэральнай лініі партыі на вёсцы, яшчэ больш рашуча праводзіць чыстку

сваіх шэрагаў, уцягваць у коопэрацыю лепшую частку моладзі, павялічыць фонд коопэраваньня і поўнасьцю выкарастаць яго, сачыць і кіраваць за выкананьнем дагавароў па соцспаборніцтву. Зьвярнуць увагу на пушное зьвераводзтва, асабліва трусаводзтва, не абмяжоўвацца зборам падпіскі на часопісь „Паляўнічы Беларусі“ па культпрацы, а паводле гэтае часопісі весьці выхаваўчую працу сярод паляўнічых, палепшыць працу па сабакагадоўлі—вядучы як колькасны, так і якасны падлік усіх паляўнічых сабак. Уцягнуць у стралковы спорт усіх паляўнічых, накіроўваючы гэты спорт на страляньне з дробнакалібэрных вінтовак, увязаўшы гэтую працу з Асоавіяхімам.

**О—ў.**

# Людзі, вельмі занятыя...

Прайшло тры квадры году пасьля абраньня новага бюро Клімавіцкага калектыву паляўнічых, а яно і дагэтуль не ўзялося за працу. Абказныя працаўнікі бюро і рэўкамісіі або заняты сваёй службовай працай, або, як выпадкова папаўшыя ў склад кіраўніцтва райкалектыву, ня маючыя пачуцьця і прыхілу да паляўнічае справы, не разумеюць патрэб і жыцьця арганізацыі. Мясцовыя органы таксама адсоўваюць справу аб паляўнічай гаспадарцы на апошняе месца, кажучы—„няважная справа“, а падштурхнуць яе некаму.

Вось прыклад: арганізуюцца паляўнічыя ячэйкі год, і ўсё не арганізаваны, то некаму выехаць на вёску, то сельсавет ня можа перамагчы гэтае „няважнае справы“.

Утварэньне заказьніка на рацэ Лабжанцы, дзе плодзіцца шмат выдраў і бброў, цягнецца ўжо больш году. Есьць ужо і пастанова акрвыканкому, але няма „дробязі“—самага заказьніка. Заказьнік не замацован, не ахоўваецца, а вельмі каштоўны зьвер зьнішчаецца браканьерамі. На працягу году забіта тры выдры і два бабры. Рэчка Лабжанка перагароджана „язамі“ і рыбаловы замест рыбкі ловяць выдру і бабра—у мутнай вадзіцы. Наогул гэты спосаб лоўлі рыбы сурова забараняецца законам, але, акрамя паляўнічых, ніхто пальцам ня кіўнуў. Дазволены ў гэтым годзе абстрэл вавёркі ў нас зусім зьнішчыў гэтага вельмі каштоўнага зьвярка. У некаторых калгасах паднята пытаньне абагуленьня стрэльбаў, каб імі мог карыстацца кожны член калгасу. Аб гэтым таксама трэба тэрмінова вырашыць [1]).

**Стасенка.**

[1]) Стрэльбы, і ўсе прылады і прадукты паляваньня згодна тлумачэньня Калгасцэнтру і „Белкохотсоюза“ абагульненьню не падлягаюць.

Рэд.

# Міліцыя нам не дапамагае.

У нас у Чэрвенскім раёне ніяк ня вяжыцца праца райкалектываў паляўнічых з міліцыяй. Саюз паляўнічых выключае кулакоў, а міліцыя выдае ім дазволы на права трыманьня стрэльбаў, такім чынам кулакі застаюцца з стрэльбамі і, апроч таго, з падцішка браканьернічаюць. Напрыклад, выключылі з калектыву паляўнічых Кірытовіча і Наркевіча, а міліцыя, замест таго, каб адабраць стрэльбы, выдала ім дазволы.

А то бывае і так, што саюз паляўнічых толькі яшчэ хоча выключыць якога-небудзь кулака, а міліцыя ўжо папярэдзіла і на скарзе гэтага „абіжанага“ кладзе рэзалюцыю: „Лічу, што гэты грамадзянін павінен быць у саюзе паляўнічых“.

Пры такіх умовах працаваць ніяк нельга. Райбюро таксама кепска працуе. Лічыцца пяць членаў райбюро, а працуе толькі адзін т. Карпук.

Трэба зьвярнуць увагу на нас „забытых“ каму належыць.

**Шыла ў мяшку.**

# Ні пляну, ні працы.

Зараз робіцца агляд працы ўсіх райкалектываў,—трэба заглянуць і ў Смалявіцкі райкалектыў, што на Меншчыне.

Ня гледзячы на ўступленьне Смалявіцкага райкалектыву паляўнічых у сацспаборніцтва, яно кепска працуе: пляну працы няма, калі падасі якуюнебудзь заяву ў райбюро, дык яна там ляжыць месяцамі не разгледжанай, старшыня райбюро зусім ня цікавіцца працай, у райбюро ніколі не заходзіць. З разьмеркаваньнем стрэльбаў таксама ня ўсё добра:—адну ламанку далі міліцыянэру, а ён яе прадаў, добра зарабіўшы на гэтым. Зараз маецца добрая ламанка, але яна мусіць таксама не пападзе ў рукі бедняку - паляўнічаму, а „злыя языкі“ гавораць, што яна вельмі „прыглянулася“ аднаму „адказнаму“ працаўніку раённага маштабу, хоць і непаляўнічаму.

**Лісагон.**



Парушылі пакой

# САБАКАГАДОЎЛЯ

## АБ ЧУМЕ І ГЛІСТАХ У САБАК.

У маёй кніжцы „Паляўнічы сабака“ як у лекавым аддзеле, так і ў частцы аб вырашчваньні шчанюкоў, я зьвяртаю ўвагу на глістаўую хваробу, лічучы яе, калі ня першай крыніцай, то, ва ўсякім выпадку, галоўным дапаможнікам хвароб, у тым ліку і чумы.

Нядаўна ў адным з вэтэрынарных часопісяй была зьмешчана заметка вэтэрынарнага ўрача С. Юдзіна, у якой аўтар выказваецца, што чума не самастойная хвароба а зьяўляецца глістнай хваробай у цяжкай форме.

Учыніўшы дасьледваньне шчанячага бруду на глісты, Юдзін убачыў, што амаль усе шчанюкі заражаны глістамі. Тады ён стаў учыняць дасьледваньне крыві заражаных шчанюкоў і знайшоў у іх такія-ж відавыя зьмены, якія назіраюц а пры чуме. Працягваючы вывучаць адзнакі глістaвой хваробы і чумы, ён, урэшце, упэўніўся, што адзнакі гэтых хвароб амаль што ня розьняцца адзін ад другога.

Гэта прывяло яго да заключэньня, што калі чума існуе як самастойная хвароба, то першарадную ролю ў яе зьяўленьні граюць глісты, ці чумы ў сабак зусім ня бывае, а існуе толькі цяжкая глістная хвароба.

Цяжкасьць хваробы залежыць ад сур ёзнасьці паражэньня таго ці іншага органу, з прычыны мэханічнага папсаваньня іх пераходзячымі глістамі.

Разьбіраючы артыкул С. Юдзіна, проф. Міхайлаў знаходзіць, што закранутае ў ім пытаньне, вельмі важна і цікава, але вядома патрабуе далейшай распрацоўкі.

Я лічу, што яно важна і таму, што пытаньне аб канчатковым выяўленьні чумы зноў адсунулася на нявызначаны тэрмін. Паведамленьне, зьмешчанае ў „Охотничьей газете“ ў пачатку мінулага году, аб тым, што ў Англіі знойдзена бацыла чумы, што яна кульцівіруецца і хутка будзе прыгатавана супроцьчумная вакцына—ня верна.

Усе спробы кульцівіраваць бацылу і атрымаць вакцыну да гэтага часу не ўдаецца. Толькі пачалі яшчэ прыгатаўляць супроць чумы прывіўку, пасьля ўжываньня якой і паўторнага ўжываньня чумнай неаслабленай атруты жывёла нібы не паддаецца заразе.

Робіцца гэта прывіўка з заражаных органаў, асабліва багатых утвараючымі хваробу вусьнямі, але сіла гэтых вусьняў дакладна ня вымерана, а таму і самая вакцына зьяўляецца прадуктам ня зьмеранай сілы, кожны раз патрабуючым праверкі вопытнымі прывіўкамі.

Нешта падобнае пачалі прыгатаўліваць і ў нас у СССР, але поўная няўспрыймальнасьць да чумы, пасьля падобных прывівак, да гэтага часу яшчэ канчаткова не ўстаноўлена і патрабуе таксама шмат праверак.

Вось пагэтаму погляд Юдзіна і здаецца нечым новым, асабліва цікавым.

Калі напэўна ўся справа ў глістах, то пры жаданьні і акуратнай адносіне да справы, папярэдзіць сабаку ад іх і, і такім чынам, папярэдзіць хваробу, ня цяжка.

Усе мэдыцынскія сродкі барацьбы з глістамі атрутны, а таму вельмі небясьпечны і патрабуюць асьцярогі пры ўжываньні.

Вельмі добрым сродкам я лічу, а таму і напамінаю аб ім—канаплянае масла. Некаторыя-ж даюць хворым сабакам і льняное і масла, нават падсолнухавае, якое, таксама дзейнічае добра.

Спосаб ужываньня: 2—3 разы ў тыдзень мазаць корм, прыблізна па сталовай лыжцы на хворага шчанюка. Канаплянае масла ўсе такі лепш.

Што датычыць прывівак, то зараз у мяне зьявілася думка, шта яны галоўным чынам зьнішчаюць вусьняў глістоў і тым захоўваюць сабаку ад чумы.

**М. Аляксееў.**

## За вопытную дасьледчую станцыю.

У артыкуле „Ці не пара замяніць палявыя спробы“ БС прапануе арганізаваць ў Беларусі вопытна-дасьледчую станцыю, бо існуючыя палявыя спробы сабак, па сваёй кароткатэрміновасьці ня могуць даць вернай ацэнкі сабаку. Бываюць нярэдка выпадкі, калі сабака добра працуе на паляваньні, а на палявых спробах паказвае толькі адмоўныя бакі.

З утварэньнем вопытна-дасьледчае станцыі можна будзе даць верную ацэнку сабаку. Станцыя таксама павінна будзе даваць кансультацыю маладым паляўнічым у тых выпадках, калі апошні захоча набыць сабаку, прапускаючы яго праз станцыю. **Громаў.**



Вайсковыя сабакі з кулямётамі.




# ВЫСТАЎКА НАБЛІЖАЕЦЦА.



Да адчыненьня 1-й Усебеларускай сельска-гаспадарчай і прамысловай выстаўкі засталося зусім мала часу—3 месяцы. Паляўнічая коопэрацыя, аб чым ужо пісалася ў нашай часопісі, у лясным павільёне мае свой аддзел, які складаецца з жывой фаўны, пушніны, прыладаў паляваньня, дыяграм росту арганізацыі, яе дасягненьні, выдавецкая справа і г. д.

Пэўней кажучы, на выстаўцы разам з дэманстрацыяй дасягненьняў сельскай гаспадаркі і прамысловасьці Беларусі будуць паказаны дасягненьні і паляўнічай коопэрацыі, яе ўдзельная вага як неад'емлемай часткі народнай гаспадаркі краіны.

Мы зараз ужо можам падвесьці некаторыя вынікі нашай надрыхтоўкі. Падрыхтоўку жывой фаўны для выстаўкі, за выключэньнем дзіка і мядзьведзя, можна ўжо лічыць скончанай. Такім чынам мы жывую фаўну нарыхтавалі на 2—3 месяцы раней прадугледжанага плянам нарыхтовак тэрміну.

Пушніна для выстаўкі будзе набыта Дзяржгандальбелам, так як ўся нарыхтованая на Беларусі пушніна канцэнтруецца ў Дзяржгандальбеле.

Дыяграмы таксама заказаны і ў хуткім часе будуць скончаны.

Ня будзе ніякіх затрымак і з прадстаўленьнем выдавецкага аддзелу на выстаўку.

Але за тое кепска абстаіць справа з нарыхтоўкай да выстаўкі экспанатаў—прыладаў паляваньня.

Здаецца, ніхто ня будзе адмаўляць таго, што жадана было-б дэманстрыраваць на выстаўцы і сродкі паляваньня паляўнічых Беларусі. Гэта вельмі цікава было-б.

Мабыць месцы сьпяць таму, што за гэты від экспанатаў ні выстаўком, ні „Белкохотсоюз“ ня плоцяць? Дык ці можна за ўсё плаціць і асабліва за такія рэчы, якія зараз-жа пасьля выстаўкі будуць раздаць паляўнічым назад. А дзе-ж грамадзкасьць, дзе-ж актыўнасьць мас у нарыхтоўцы да выстаўкі?

Нават маюцца такія паляўнічыя, якія і ня ведаюць нічога пра выстаўку, ня чулі пра выстаўку. Таварыствы, бюро і ячэйкі нічога ім пра выстаўку не расказалі.

Нельга абыйсьці маўчком і такі факт „удзелу“ ў падрыхтоўцы, як гэта мела месца ў „Боброхоте“.

„Боброхота“ бясплатна набыла мядзьведзя, а калі „Белкохотсоюз“ прасіў даставіць яго для выстаўкі, дык „Боброхота“ запрасіла ня менш, як 100 руб.

За вошта 100 руб.? Невядома. Ня ведае напэўна і сама „Боброхота“.

Да выстаўкі засталося мала часу. Там, дзе ня была праведзена растлумачальная праца да выстаўкі, яе трэба правесьці.

Акруговыя таварыствы, райбюро і ячэйкі павінны праверыць, што ў іх ёсьць цікавага, каб прадставіць для выстаўкі, зьвярнуць асаблівую ўвагу на экспанаты—прылады паляваньня.

**ПАЛЯЎНІЧЫ, рыхтуйся да сельска-гаспадарчай выстаўкі.**

# Людзі, зьвяры, птахі

*Апавяданьне* **М. Я. Цэлеша.** *(Канец).* *Малюнкі* **Г. Змудзінскага.**

Я ня знаў, што сказаць, бо быў ашарашан прыёмам „гасьця“, а кулак сьмяяўся з мяне, чырванеў, захліпаўся і жывот яго ўздрыгаў як вулкан.

— Кулак! — сказаў я, нарэшце, і рвануўся за дзьверы.

Калі прышоў да Макара, там чакалі вячэраць. На стале чыгун з бульбай стаяў: малака шклянка парнога; на талерцы простакваша з сьмятанай. Моўчкі сеўшы за стол, я рашыў наварстаць патрачанае. Апэтыт быў здаровы: цэлы дзень мы нічога ня елі.

Калі кладліся спаць, я Макару сказаў пра здарэньне.

— А пры чым тут ты? То ўся злосьць на мяне, бо ня церпяць яны беднякоў, асабліва тых, хто засоліць ім. А я засаліў! — і Макар кіўнуў галавой.

— Старшынёй камітэту беднаты зараз я, ну і задаў! Але я не баюсь, далібог. Ї здаецца, каб яны ўсе на мяне аднаго, я-б ня струсіў.

Макрына прыгатавала нам пасьцель на падлозе. Паклала сена і накрыла яго посьцілкай, а Макар загадаў.

— Ну, хлопцы, сёньня яешні смажыць ня будзем, а таму на курасоньне да заўтрага! Добра папалюем заўтра, добра, — і заснуў.

Пахла смажаным салам, калі мы з таварышам прачнуліся і пачалі апранацца, Макрына пякла яешню. Макар чысьціў на лаўцы сваю „пістуноўку-бабульку“, як ён яе называў, нешта соп у ствалы і калупаў іголкай у бранку.

Я падышоў да Макара і паглядзеў на „бабульку“. Стрэльба была пакалечана і ўся перавязана дротам і шворкай, нібы з ёй „на туркаў хадзілі“.

— Добра б'е, Макар, што шкадуеш ды гладзіш яе так? — запытаўся я.

Макар хітра падмільгнуўшы, засьмяяўся ў бараду.

— Б'юся аб заклад, што вам не паддамся, дарма што ў вас дарагія бяскуркоўкі. — Надоечы я вышаў лён паглядзець, што пасланы ў „Таўсцы“ на аблозе сярод руні і „бабульку“, вядома, узяў. Толькі прайшоў гэта я гумнішчы, як з пад елкі...

— Ну, пайшоў ужо!.. Колькі раз ты казаў пра гэтага зайца? — ня ўзьлюбіла Макрына. — Сьнедаць от людзей гукай!.. — а потым з вясёлай усьмешкай дадала:

— Калі ласка, таварышы, сядайце, пасьнедайце!

Ад цяплыні і шчырасьці, з якой зьвярталася да нас увесь час Макрына, неяк радасна было на душы.

Кончылі сьнедаць. Ускінуўшы стрэльбы за плечы і ўзяўшы на шворку сабак, мы выйшлі на двор.

— А добрая жынка, Макар, у цябе!?

— Х-э-э! жонка! Жонка, як жонка! Працаўніца, дзяцей і скаціну даглядае. Член сельсавету!

Моўчкі ішлі па жніўях, а потым павярнулі к балоту, абапал якога зелянела рунь. Адпусьціўшы „Флейту“ з „Рыдаем“, мы закурылі.

Над балотам полагам вісеў туман і дымок з нашых цыгарак таяў у яго лахманох. Сонца краем выйшла з-за лесу і паслала касыя праменьні. Зачырванеўся туман. Раптам падуў вецер, загаманілі хвойкі, зашапталі з нейкай таемнай перасьцярогай бярозкі-блёндынкі. Туман адарваўся ад зямлі і лахманамі расплыўся ў сінявата-блакітным prasторы раньня. Вёскі прачнуліся і выганялі ў поле скаціну

— Жонка, як жонка, — яшчэ раз сказаў Макар. — Але кепскае жыцьцё было, яна, небарака, лямку цягнула, ад таго сярдзітая стала. Паляваньня ня церпіць! Скажу я табе пра адно здарэньне.

Неяк улетку, калі птаха на крыло станавілася і спробы рабіла падняцца на іх у студзена-блакітную даль раньня, я сядзеў з вудай каля рэчкі. Жыцьцё расьпіналася навокал. У паветры над маёй галавой кружылі маладыя кроншнэпы даўганогія і нібы галасілі, захліпаліся ад радасьці жыцьця, сакаталі, што радзіліся на сьвет. Іх бацькі, больш па разьмеру — і на крылах мацнейшых, распасьцёршы іх у паветры, шырока замiралі над імі ў ружовым эфіры раньня і гукалі да сябе ў вышыню. Я сядзеў тады каля рэчкі з вудай і думаў: „добра таму, хто кахае прыроду, разумее яе. Ён жыве яе лекамі, гамоніць з ёй, упіваецца яе хараством, адпачывае ад працы“. Ї задумаў тады я купіць добрую стрэльбу-ламанку, каб хадзіць было весялей па ўзгорках, баравінах субалатках. Прышоўшы з рыбы, я выклаў на стол шмат акунёў з пазалотай і запытаўся ў жонкі наконт стрэльбы. Ну і давай яна мяне скубсьці, і да-



... Я сядзеў з вудай каля рэчкі...



... А Макар стаіць на пні...

вай. І лаяла і папікала аж у пот кідала мяне. Так і застаўся я з „бабулькай", бо грошай у мяне „кот наплакаў".

У гэты час мы ўваходзілі ў лес, а „Флейта" з „Рыдаем" усё шасталі ў кустох у балоце. Раптам „Флейта" брахнула, піскнуў яе сын. Мы ўздрыгнулі і, як па камандзе, хапіліся за стрэльбы. Над кустамі балота павісла стада цецярукоў. Яны ня бачылі нас і ляцелі на лес. Вось відаць іх даўгаватыя шыі, чырвоныя бровы і як ліры хвасты. Цецярукі ўсё бліжэй і бліжэй.

Таварыш мой паправіў акуляры, стрэльбу ўскінуў к верху і два разы стрэліў. Цецярукі пакачнуліся і прыбавілі ходу. Ускінуў „бабульку" і Макар хруснуў. Адзін цецярук пакачнуўся і адстаў. Яшчэ раз хруснуў з „бабулькі" Макар і цецярук комам паляцеў на зямлю. Стрэліў і я, проста ў кучу. Дым павіс на хвоях. Штось лапатала пад елкай. Я кінуўся туды. Чарныш яшчэ трапятаў у руках, а з дзюбкі капала ліпкая кроў.

— З полем і цябе!—трымаючы ў правай руцэ чорную птаху, адгукнуўся Макар.

— От гэта, дык птаха. Паглядзі, красавец які!— і Макар паднёс чорна-сінюю птаху да сябра.

Той праціраў акуляры. Паглядзеў чарныша, сьвіснуў узлосьці, штось буркнуў пад нос і зьнік за сасонкамі. Мы пастаялі, пакурылі.

Ціха, толькі шастае лісьце, гамоняць вярхушкі сасонак, нібы зраду вядуць. Недзе з шумам зьляцела шышка. З сухастоя дзяцел сарваўся, скрабянуў, як аб камень касой і ўляцеў. Яму адгукнулася жаўна. Раптам—стрэл, а за ім другі. Забрахалі сабакі і ўсё сьціхла.

Я і Макар з усіх ног пабеглі на стрэлы. Мой сябра стаяў пабялеўшы і трымаўся за палец. У нагах ляжаў зьвер.

— Барсук, падлюга, наскочыў. Я стрэліў і ён упаў, а калі падышоў, каб узяць, за палец ірвануў. Тады я яшчэ, а тут і сабакі напалі на сьлед, прыдушылі...

З пальца капала кроў. Мы зрабілі перавязку і рассыпаліся ланцугом па лесе. „Флейта" з „Рыдаем" зьніклі ў кустох.

— Нутка, сабачкі, давайце! Давай, давай!—крыкнуў Макар і паслаў іх у дробны сасьняк.

Я стаяў на рагу дзялянкі. Усё тая-ж цішыня, замерла жыцьцё. Я лаўлю кожны шорах і гляджу па бакох. Штосьці неўлавімае разанула ў паветры— нібы піскнуў сабака; яшчэ раз і яшчэ.

І запела, зайграла „Флейта", загаласіў „Рыдай", засьмяяўся лес і кожны кусток, кожная галінка напоўніліся гэтай музыкай, плачам. Зьвер пашоў ад нас паўздоўж лесу. Трымаецца гушчару—значыць ня заяц, думаю я.

І льлецца музыка, коціцца па вярхушках сасонак. Зьвер ушоў далёка і гон замірае, толькі глухія кароткія гукі: а... а... а... нясуцца адтуль і шчакочуць напружаны слух. Вось гон зусім аслабеў і замёр, а потым, мінут праз дзесяць—пятнаццаць, зноў палезьлі ў вуха глухія кароткія гукі. Гон набліжаўся і ўжо выразна чуецца: ах... ах... ах... і коціцца, сьцелецца па вярхушках кражоў. І так з гадзіну ці дзьве.

Зьвер зрабіў круг і павярнуў на дзялянку. Вось, вось пакажацца востраносая рыжая морда. Увесь аддаюся ўвазе, таю ў гуках сабак, але стрэл абарваў музыку і глухім рэхам пакаціўся далёка, далёка. Хутка змоўклі і сабакі.

Я бягу на стрэл, скачу з пня на пень, прадзіраюся праз кусты. А Макар стаіць на пні і над галавой за карак трымае лісіцу. „Флейта" з „Рыдаем" рвуцца да зьвера.

Згусьціўся змрок. Стала цямнець. Дзень патухае. Сонца на разьвітаньне цалуе вярхушкі сасонак. Мы пратрубілі адбой і ўзялі на шворку сабак. Як з двухстволкі хочацца есьці. Мы зайшлі да Макара палуднаваць.

Калі мы садзіліся на воз, з саломы віднеўся хвост лісіцы, а на маёй торбе вісеў цецярук.

— Будзеш у горадзе, заходзь, Макар, за ламанкай!..

# Памятка рыбалову

## Як плодзяцца рыбы.

Яшчэ да гэтага часу ў некаторых мясцох нашага Саюзу сярод рыбакоў існуюць самыя няверныя ўяўленьні аб тым, як плодзяцца рыбы. На Кубані старыя рыбакі самым сур'ёзным чынам сьцьвярджаюць, што кожная рыба „родзіцца“ з трох ікрынак: з дзьвюх утвараюцца вочы, а з трэцяй астатнія часткі цела. Між тым распаўсюджаньне правільных ведаў сярод рыбацкага насельніцтва аб тым, як плодзіцца рыба, мае вялікае значэньне, бо ня ведаючы гэтага важнейшага фактару жыцьця рыб, немагчыма разумная эксплёатацыя рыбных багацьцяў. Ня будзем ужо гаварыць аб тым, што ўся дзейнасьць практыкарыбалова ўпіраецца менавіта ў гэты бок жыцьця рыб. Вось чаму мы лічым ня лішнім пазнаёміць чытачоў нашае часопісі з гэтым цікавым пытаньнем.

Большасьць рыб зьяўляецца падзельна-полымі, г. зн. частка рыб маюць мужчынскія полавыя органы і называюцца самцамі, а частка—жаночыя,—гэта самкі. Некаторыя з рыб бываюць гэрмафродытамі, г. зн. у гэтых рыб адна і тая-ж рыба мае і мужчынскі і жаночы полавыя органы. Усе астатнія пазваночныя жывёлы гэрмафродыты зьяўляюцца вырадкамі, як, напрыклад, і чалавек. Што датычыць рыб, то тут у адносіне некаторых відаў гэта зьявішча зусім нармальнае.

Такімі нармальнымі гэрмафродытамі зьяўляюцца марскія чырвоныя акуні (Serranus), якія сустракаюцца ў нас на Мурмане, а таксама рыба (chrysophrys). Як уродлівасьць гэрмафродытызм сустракаецца ў сялёдак, трэскі, скумбрыі і інш. Полавымі залозамі самцоў рыб зьяўляюцца семяньнікі, якія інакш называюцца ў жыцьці малаком (малачай). Полавыя залозы самак—яечнікі (ікра).

Адгэтуль самцоў называюць малачаямі, а самак ікранкамі. У гэрмафродытаў марскіх акунёў семяньнік складае частку яечніка. Як семяньнік, так і яечнікі ва ўсіх рыб, апроч міног, зьяўляюцца парнымі і ляжаць у дупіне цела справа і зьлева ад кішэчніка пад плавацельным пухірам. Полавымі прадуктамі, якія сьпеюць у полавых залозах, зьяўляюцца: спэрміі—у самцоў і яйкі або ікрынкі—у самак. Пасьля таго, як спэрміі і яйкі пасьпеюць, г. зн. зробяцца здольнымі даць пачатак новаму арганізму, яны праз асобныя пратокі выходзяць надвор, г. зн. у акаляючую рыбу ваду. Для таго, каб яйка атрымала магчымасьць разьвівацца ў новы арганізм, неабходна, каб яно было заплоднена спэрміем або спэрматазоідам самца. Спэрматазоід рыб па сваёй форме вельмі падобны на спэрматазоід іншай жывёлы. Яны вельмі малыя, могуць быць разгледжаны толькі пад сільным павялічэньнем, складаюцца з патоўшчанай пярэдняй часткі і тонкай задняй, вельмі рухомай.

Самы працэс запладненьня ўтвараецца такім чынам: самка, выбраўшы падыходзячае месца, выпускае доўгай істужкай ікру, а самец, а то і некалькі самцоў паліваюць ікру малаком. Спэрматазоіды ў выніку сваёй жвавасьці дасягаюць ікрынак і, уваходзячы ў апошнія даюць, штуршок разьвіцьцю з ікры малька. Так, як апісана вышэй, плодзіцца большасьць рыбы.

Аднак, некаторых рыб можна назваць жывародзячымі, бо ў іх працэс запладненьня і пасьпяваньня зародку ўтвараецца ўнутры арганізма самкі. Да такіх рыб адносяцца акулы і скаты. У гэтых рыб самцы маюць полавыя органы, якія ўваходзяць ў клоаку самкі і там утвараецца запладненьне.

Яйкі ці ікрынкі рыб па сваёй форме і велічыні неаднолькавыя. Іх велічыня залежыць ад колькасьці бялка, які ў іх знаходзіцца. Жаўток-жа служыць для харчаваньня зародку, пакуль ён знаходзіцца ў ікрынцы. Дыямэтр ікрынак ад 0,1 мм у ўгра і да 6 мм у ласося. Наогул-жа яйкі марскіх рыб драбней за яйкі прэснаводных рыб. У адных рыб яйкі або ікрынкі пасьля запладненьня плаваюць у вадзе, а ў другіх прымацоўваюцца да якіх-небудзь падводных прадметаў, напр. да расьлін.

Якая колькасьць дзейных у аднэй самкі яек ці ікрынак? Яна таксама падвернута значным хістаньням. Наогул-жа трэба сказаць, што чым менш яек, тым іх больш разьвіваецца ў яечніках і чым яны буйней, тым іх менш. У трэскавых (трэска, майва і інш.) ікрынкі вельмі малыя і таму іх колькасьць у аднэй самкі дасягае да 14 і 60 мільёнаў штук (майва) і да 8—10 мільёнаў (трэска). А луна-рыба мае нават да 300 мільёнаў яек. У ласосяў ікра буйная і пагэтаму колькасьць ікрынак у іх налічваецца дзесяткамі тысяч. Мы прывядзем тут лічбы аб колькасьці ікрынак у нашых звычайных прэснаводных рыб—карп—да 1200000 шт., судак—да 900000, лінь—да 827000, сом—да 500000, лешч—да 500000, карась—да 275000, акунь—да 200000, шчупак—да 200000, ерш—100000, уклейка—10000 і г. д.

Заплодненая ікра разьвіваецца ў залежнасьці ад надворных умоў і ўперад за ўсё ад тэмпэратуры вады і колькасьці кісларода, які знаходзіцца ў вадзе. Калі гэтыя ўмовы спрыяюць, малёк вылупіцца з ікры хутчэй, калі не, то пройдзе больш-менш шмат часу ад моманту запладненьня да моманту вылупліваньня. Часта здараецца і так, што заплодненая ікрынка і зусім не разаўецца ў малька і загіне. Наогул-жа пэрыод вываду малькоў з ікрынак хістаецца ад аднаго тыдню, напр., у карпа да некалькіх месяцаў, у ласосяў, якія мечуць ікру ўзімку.

Вось якая залежнасьць існуе між тэмпэратурай вады і пэрыядам разьвіцьця ікры: у фарэлі пры 2° С ікра разьвіваецца ў 205 дзён, пры 5° С—82 дні, пры 10° С—41 дзень.

Аднак, ня трэба думаць, што калі яшчэ больш павялічыць тэмпэратуру вады, то паскорыцца разьвіцьцё ікрынак. Для кожнага віду рыб існуе свая мяжа тэмпэратуры і вышэй гэтае мяжы ікра зусім ня будзе разьвівацца і загіне. У сувязі з выплоджваньнем рыб узьнікае цэлы шэраг пытаньняў, якіх мы тут не закранем, бо гэта завяло-б нас вельмі далёка. У заключэньне мы спынімся толькі на пытаньні аб клопатах аб патомстве ў рыб.

Большасьць рыб, выпусьціўшы і запладніўшы ікру, пакідаюць сваё патомства, а некаторыя, як кета, гінуць пасьля выпушчэньня ікры. Некаторыя з рыб робяць нешта падобнае гнязду з гравія і пяска, куды і адкладаюць ікру, іншыя толькі засыпаюць яе пяском. У калюшак самец будуе сапраўднае гняздо і ахоўвае яго разам з малькамі некаторы час.

У марской рыбы пінагора моладзь прымацоўваецца да цела самца з дапамогай прысосак і так застаецца некаторы час. Урэшце, у марскога канька і марской іглы запладненыя яйкі зьмяшчаюцца ў асобным мяшку на целе самца.

**В. Есіпаў.**

## Вясеньняя лоўля рыбы.

Сакавік-красавік. Пачынаецца летні сэзон рыбнае лоўлі. У сакавіку па Беларусі рэкі і вазёры адтайваюць і пачынаюць нераставаць шмат якія пароды рыб—елец, падуст, харыус, шчупак, шэрасьпер і г. д.

У сакавіку, калі лёд ужо адтаў ад берагоў, але яшчэ ня рушыўся, пачынаецца лоўля рыбы—намёткай, якая цягнецца да поўнага ачышчэньня вады ад лёду і прасьвятленьня яе. Лоўля ўчыняецца галоўным чынам у мясцох нераста і на пясчаных атмелях.

У красавіку, калі вада ачышчаецца, але яшчэ стаіць высока, пачынаецца паляваньне са стрэльбай і восьцямі на шчупакоў і ляшчоў [1]). Як толькі вада пачне спадаць—пачынаецца лоўля рыбы кручковымі снасьцямі—вудамі, падпускамі і перамётамі. Подпуск або шнур, як яго называюць беларускія рыбаловы, уяўляе сабой тонкую бічоўку даўжынёй у сярэднім да 30 мэтраў, палавіна якой занята кручкамі ў ліку да 15 шт., прывязанымі моцнымі павадкамі даўжынёй да $^1/_2$ мэтра і таўшчынёй у 10—12 валасоў. Павадкі прывязаны на адлегласьці аднаго мэтра адзін ад другога. Гэтай снасьцю лепш за ўсё лавіць з лодкі. Апускаць шнуры трэба з грузілам (каменем, куском жалеза і г. д.). Пры лове з берага ў абодвых крайніх кручкоў шнура прывязваецца па камню і шнур перакідаецца праз рэчку так, каб ён лёг поперак яе.

Таксама як і шнур робіцца і перамёт. Розьніца толькі ў тым, што перамёт вісіць над ракой з апушчанымі ў ваду павадкамі да дна. Для перамёта ўжываецца бічоўка больш моцная. Раньняй вясной бываюць выпадкі, што на перамёт ці шнур зачэпіцца такі экзэмпляр рыбы, аб якім улетку і думаць ня прыходзіцца.

Вуды пачынаюць ужывацца з вясны толькі цяжкія-донныя. На донныя вуды ў гэты час ловяцца рыбы—налім, сом, лешч і ўгор. Лоўля ўчыняецца ноччу, днём—вынікі кепскія. Вуда павінна быць з гнуткім кончыкам, даўжынёю ў 1 мэтр. Леска ў 10—15 валасоў, таўшчынёй і даўжынёй, пры лоўлі з берага, 20 мэтраў, з лодкі 10 мэтраў. Вага грузу—2 сярэдніх карцечыны. Кручок—№ 1—1|0, для ўгра № 6—7.

Насадка ўвесну ўжываецца—чэрві, верацяніца, лягушка, малая рыбка, гарох.

Па ўбылі і пасьвятленьні вады пачынаюць лавіць на лёгкія вуды, а галоўным чынам—нахлыстам. Сьпінінг яшчэ мала ўжываецца, бо шчупак нерастуе ці канчае нераставаць—пачынае брацць толькі ў пачатку мая, шэрасьпер і судак бяруць вяла, галавень і язь бяруць толькі з дна. Нахлыстам ловяць ляшчэй, улетку—плотку. Вудзялно тонкае, гнуткае даўжынёю 6 м., леска ў 4—5 валасоў даўжынёю, 15—20 мэтраў. Насадка—кусочкі чарвяка.

Шчупак, колба, лінь, карп, карась і інш. нерастуючыя рыбы ня ловяцца да пачатку мая. Добра бяруць уначы налім, сом, лешч, угор. Днём—ліны, падуст, плотка, судак, уклейка, акунь, ялец і інш. Галоўнай насадкай зьяўляецца—земляны і гнойны чарвяк.

**Крас.**

[1]) Рыбная лоўля і паляваньне на яе ў час нерасту—усякімі спосабамі і прыладамі на абшарах Сав. Беларусі забаронены, за выключэньнем лоўлі вудамі розных сыстэм.

**Рэдакцыя.**

# Новыя кнігі па рыбаводзтву.

**Проф. А. Н. Елеолінскі. Інструкцыя па выкарыстаньню абвадненых і іншых ставоў для мэт рыбаводзтва. Выданьне „Новая Деревня", Масква, 1930 г. Стар. 16. Цана 40 кап.**

НКЗемам праводзіцца цэлы шэраг мерапрыемстваў па разьвіцьцю рыбаводзтва, у прыватнасьці карпаводзтва з аднагадовым зваротам, якія зьяўляюцца па мінімальных затратах сродкаў і сіл найбольш даступнай формай рыбаводзтва для сялянскіх мас. Інструкцыя проф. Елеолінскага і мае на ўвазе галоўным чынам гэтыя формы рыбаводзтва, хоць каротка у ёй і гаворыцца аб поўнай ставачнай гаспадарцы з двох і трох гадовым зваротам.

Вось пералічэньне пытаньняў, аб якіх ідзе гутарка ў кніжцы Елеолінскага: кароткая характарыстыка карповага рыбаводнага ставу і прад'яўляемыя да яго вымаганьні, тэхнічная канструкцыя рыбаводнага ставу, канструкцыя вадаспуску рыбаводнага ставу, апісаньне карпавае ставачнае гаспадаркі з аднагадовым, двохгадовым і трохгадовым зваротам (нормы пасадкі, прыбытковасьць і г. д.), выкарыстаньне для разьвядзеньня судака, ляшча, карпа і ліня буйных няспускных ставоў і, урэшце, у заключэньне меры інтэнсіфікацыі карпавае гаспадаркі ў ставах (аздабленьне ставаў і кармленьне карпаў). Да кніг прыкладзэны чарцяжы дэталяў вадазьліву сыстэмы Фалеева. **В. Е.**

**Н. Ліцін. „Что нужно знать рыболову". Выдавецтва „Крестьянская газета". Малюнкі ў тэксьце мастака Добраноўскага. Стар. 46. Цана 15 кап. Масква, 1929 г.**

Гэта невялічкая, даволі добрая, кніжачка прызначана, галоўным чынам, для сялянскіх дзяцей. Аднак, яна будзе карысна і даросламу аматару-рыбалову і прафэсыяналу-рыбаку. Асаблівасьцю яе зьяўляецца строгая навуковасьць разам з даступным, проста складзеным зьместам. Кніжка складаецца з дзьвюх частак: у першай апісана, як пабудавана рыба, асобныя яе органы і як яна жыве, плодзіцца і чым корміцца, у асобных відах нашых прэснаводных рыб (ялец, ёрш, лешч, карась, сазан ці карп, чырвонапёрка, лінь, налім, акунь, келба, шчупак, язь). У апісаньні асобных рыб прыводзіцца рад зьвестак аб рэзьмерах рыбы, спосабе жыцьця і г. д. Кніжка ілюстравана добрымі малюнкамі. Цана яе даступная.

# Жыцьцё на мясцох.

**Ніяк ня можа пазбавіцца ад браканьераў** Лешчанская ячэйка паляўнічых Бабруйскага раёну, бо іх самі паляўнічыя пакрываюць і задавальняюць боепрыпасамі.

**Дзядзька паляўнічы.**

**Няма культработы** ў Чарневіцкай паляўнічай ячэйцы, Барысаўскага раёну, бо няма літаратуры. Некаторыя паляўнічыя ня ведаюць нават, што ўвясну забаронена паляваньне, не гаворачы ўжо аб тым, чаму паляваньне забаронена. Стралецкая справа таксама ў загоне.

**Глушэц.**

**Пазбаўце магчымасьці паляваць браканьеру** НІЗІЕЎСКАМУ з ф. Шабынкі Чарневіцкага сельсавету Барысаўскага раёну. Раней ён быў паляўнічым, а потым рашыў не рэгістравацца на гэты год і стаў браканьерам. **С. Г.**

**Яшчэ ня скончана чыстка** паляўнічых у Бешанковіцкім раёне, бо ў калектыве ёсьць кулакі. У мінулым там ня было ніякай працы. Зараз арганізавана 16 паляўнічых ячэек. Пры Бешанковіцкай сямігодцы ёсьць гурток паляўнічага, які будзе садзейнічаць ахове прыроды вучнямі. **Зарын.**

**Зноў адчынена „Хата-чытальня“** ў Бешанковічах і работа ажыла. Ячэйкам раздана літаратура. Будзе выпускацца насьценгазэта, устаноўлен радыё-прыёмнік. **Шырокі.**

**Доўга займаўся браканьерствам** былы жандар лясьнік і вартаўнік заказьніка БАРАНУЛЬКА ня толькі ў сваім абходзе (Бешанковіцкі раён), але і ў другіх Баранулька зьнят з працы і прыцягнут да адказнасьці па 196 арт. К. К.

**Ш.**

**Узяў абманам,** нібы пад кантрактацыю пушніны 130 рублёў ПРАПЕЎКА Станіслаў (Бешанковіцкі калектыў), а пушніны здаў на 2 р. 64 кап., бо яму няма часу паляваць. Зьбіраецца Прапеўка на паляваньне, бярэ з сабой сялёдку, гарэлку, каб жонка ня ведала, а замест паляваньня ідзе да дзяўчат. Прапеўка мае растрату і па службе руб. на 800. Зайцоў ён ні страляе, а купляе ў паляўнічых—можа на гэта і патраціў 800 рублёў? Наогул Прапеўка не заслугоўвае па сваіх паводзінах быць паляўнічым.

**—рокі.**

**Ад рэдакцыі:**

Дзе было райбюро і чаму яно выдае растратчыкам авансы. Чакаем адказу.

**Пазбавілі права паляваньня** МІРОНАВА Марціна (Лупалаўскі калектыў), а стрэльбы не адабралі, дык Міронаў як браканьернічаў, так і зараз браканьернічае. Апрача таго, Міронаў адбірае ад чужых сабак падраненую дзіч і палюе з-пад іх без дазволу гаспадара.

**Драздоў.**

**Куды трацяцца грошы** „Белкохотсоюзом“. Яшчэ ўвясну 1928 году быў аб'яўлен конкурс на лепшы значок паляўнічага. Нехта зрабіў гэты значок, а яго і дагэтуль няма. Навошта было траціць грошы і марочыць людзям галаву? **Паў...**

**Быў назначан конкурс** Праўленьнем „Мінкохоты“ на лепшага здатчыка пушніны. Пушніна здана і ўжо прайшло два гады. Была абрана нават і камісія конкурсу, а прэміі і дагэтуль няма. **Лю...**

**Затаіў быў ліса, забітага на грамадзкім паляваньні** паляўнічы, старшыня Паланевіцкай паляўнічай ячэйкі, „актывісты“, БІРУЛЯ Алесь, але яму не ўдалося прадаць гэтага ліса, бо быў выкрыты сумленным, старым паляўнічым БІРУЛЕМ Адамам. Вельмі ўжо празьмерная „актыўнасьць“ зьявілася ў БІРУЛІ Алеся і ён, не згадзіўшыся з тым, што ў яго адабралі скуру лісіцы, падаў у суд на бюро Койданаўскага райкалектыву. **... Ц.**

## Помста кулакоў.



**Кулакі Слабодзкага с.-с. Смалявіцкага раёну забілі селяніна бедняка, актыўнага паляўнічага, сябра бюро ячэйкі паляўнічых Рачкоўскага Апанаса, які ўвесь час змагаўся з кулацтвам. Агульны раённы сход паляўнічых патрабаваў ад судовых органаў вышэйшай меры пакараньня для забойцаў-кулакоў.**

**Менская акруговая каса ўзаемадапамогі паляўнічых ужо выдала сям'і забітага беззваротную пазыку ў 25 руб.**

* * *

**Мы спадзяемся, што адказам на забойства актывіста Рачкоўскага зьявіцца яшчэ больш актыўны ўдзел паляўнічых у рабоце па выяўленьню кулакоў у саюзе паляўнічых і разброеньню іх, яшчэ больш актыўны ўдзел у ахове калгаснае маемасьці.**

**Замест выбыўшага з нашых шэрагаў аднаго бедняка актывіста—коопэруем дзесяткі новых батракоў і беднякоў.**

**Рэдакцыя.**

**Высьледзіў ваўкоў** Старшыня Нудзінскай сельячэйкі ШЫЛЕЦ Рыгор каля вёскі Нудзічы ды хацеў яшчэ з адным паляўнічым пабіць іх. Але здарылася так, што ваўкі ўшлі, толькі хвасты свае паказаўшы гэтым „аматарам“ лёгкае нажывы. А каб ШЫЛЕЦ ня быў такім прагным, ды зрабіў маленькую аблаву, дык ваўкоў можна было-б пабіць.

**С.**

**Сабаціруе Старшыня Бюро калектыву** паляўнічых Кармянскага раёну ШПАКОЎ Р. Быў такі выпадак: я забіў ваўка і скуру аднёс ШПАКОВУ разам з даведкай ад сельсавета, што абклад ваўкоў рабіў я. Грошы за абклад і прэмію ШПАКОЎ мне не даў, сказаў прыйсьці пасьля. Потым ШПАКОЎ перадаў праз грамадзян, каб я зашоў за грашыма, калі я прышоў—грошы зноў ня даў, кажучы, што прышоў позна. Апрача таго, у Бюро ёсьць шмат стрэльбаў, пераданых міліцыяй, якія ШПАКОЎ раздае, каму папала. Хто з ім п'янствуе, таго і добрай стрэльбай надзяляе. Калі ШПАКОЎ вышаў з турмы, пачаў браць штрап за несваячасовую перарэгістрацыю ў разьмеры аднаго рубля, а ў квітку ставіў „уступны ўзнос“. Ды ці мала чаго можна прывесьці аб дзейнасьці ШПАКОВА.

**Міроненка.**

**Слаба каапэруецца бедната** ў нас у Слуцкім райкалектыве: грошы ляжаць нявыкарыстанымі, а калі прыдзе бядняк, каб уступіць у саюз паляўнічых, ды яму налічаць розных узносаў, якіх ён ня можа адразу заплаціць, дык завернецца, ды назад. **Ц.**

**Бацька браканьера** аб'езчык ДЗЯЎГО А. І. член саюзу паляўнічых Брагінскага калектыву мае стрэльбу, а сын браканьер палюе за яго, б'е зайцоў. А што-ж такі аб'езчык скажа свайму лясьніку, калі той пойдзе ў абход ды будзе біць у забаронены час дзіч? **С.**

**Забіў рыся** старшыня Асьвейскага бюро калектыву СЬЛЕСАРОНАК і сфатаграфаваўся з ёй. Вышла вельмі прыгожа. Але забыўся Сьлесаронак добра дагледзіць скуру рыся і яна падапрэла і вылезла. Трэба было-б і зараз сфатаграфавацца Сьлесаронку — малюнак быў-бы яшчэ „прыгажэйшы“.

**Фота-Аматар.**

**Выкінута з Слуцкага калектыву паляўнічых 138 кулакоў па чыстцы.** Зараз саюз паляўнічых стаў расьці за лік бедната, батракоў і серадняков. Ужо ўступіла 45 чалавек. Калектыў налічвае 214 чалавек. Пры такім сацыяльным складзе паляўнічых лягчэй будзе працаваць. Але-ж мы не павінны на гэтым спыняцца і ўсё больш і больш уцягваць у нашу коопэрацыю батракоў і беднякоў.

**Былінка.**

**Зроблен невялікі заказьнік** (у 3500 га) у Неманіцкім лясьніцтве Барысаўскага раёну тэрмінам на тры гады. Справа па ахове заказьніка наладжваецца. Трэ' было-б заняцца вывучэньнем фауны ў ім і падлікам дзічы.

**Колькі разоў склікаўся сход** паляўнічых барысаўскага гарадзкога калектыву, ды ніяк ня могуць сабрацца паляўнічыя—ні на якія прыманкі ня ідуць! Падцягніцеся, барысаўцы!

**433.**

# Хутчэй скончым збор сродкаў і здадзім грошы на пабудову самалёту „Паляўнічы Беларусі“.

**На 1-е кастрычніка 1929 г. сабрана 15767 р. 59 к.**

### Уносяць і выклікаюць:

**Паляўнічыя Мсьціслаўскага** райкалектыву 21 р. 50 кап.

**Паляўнічыя Брагінскага** райкалектыву 27 руб. 50 кап.

**Паляўнічыя Аршанскага** гарадзкога калектыву 76 руб. 65 кап.

**Паляўнічыя Рэчыцкага** калектыву 63 руб.

**Паляўнічыя Плешчаніцкага** калектыву 25 руб. 50 кап.

**Паляўнічыя Пухавіцкага** райкалектыву 60 руб.

### Здана пушніны:

**Ад паляўнічых Рэчыцкага** калектыву на 107 р. 01 кап.

**Ад паляўнічых Брагінскага** калектыву на 2 руб. 50 кап.

### Індывідуальныя выклікі:

**Уношу адзін руб.** на самалёт „Паляўнічы Беларусі“ і выклікаю на гэту-ж суму паляўнічых Шацкага раёну т. т. Купца П., Петрайціса Ю., Амбросіка М., Браніцкага Я., Маньясева С., Кудзіна М., Сачышына М., Зязюльчыка І., Пасьлядовіча С.

**Зачынскі.**

**Уношу на самалёт** „Паляўнічы Беларусі“ 5 руб. і выклікаю: Будзько (акруговы інспэктар асьветы, Паяркава Л. В., Баярнуса (дырэктар вінзаводу Гарадокскага раёну), Страшэвіча (упаўнаважаны працкалектыву цырка г. Віцебска), Вінтэра (інжынэр акулярнай фабрыкі), Васільлева К., Фрумсана (майстар-красільшчык панчошнай фабрыкі), Цурбан К., Кошка М. І., Кавалева (Вучотны аддзел Акругкому), Цырулю (працаўнік ДПУ), Міраманава (працаўнік ДПУ), Цыганкова В., Цітова (загадчык гаспадаркі мастацкага тэхнікума), Мінакова (фэльчар канвойнай роты), Шмырова (быўш. старшыня Віцебскай страхкасы), Гаралевіча (начальнік Віцебскай райміліцыі), Сьмірнова С. (Нам. Старшыні ЦП „Белкохотсоюза“) Данькова (быўш. Старшыня Праўленьня „Белкохотсоюза“), Даніловіча (бухгальтар Віцебскага таварыства паляўнічых), Высоцкага (загадчык магазыну Віцебскага таварыства паляўнічых), Васютовіча (загадчык гаспадаркі Вэтінстытута).

**Сьвятагораў.**

## ПЕРАПІСКА З ЧЫТАЧОМ.

**Рэчыцкаму калектыву.** У сучасны момант на БССР існуюць каля Менску 2 гадавальнікі трусоў Дзяржгандля і Белсельтрэста. У гэтым-жа годзе „Белкохотсоюзом“ арганізуюцца 3 гадавальнікі трусоў. З сваіх гадавальнікаў „Белкохотсоюз“ пачне выдаваць племянных трусоў толькі ўвосень на ўмовах контрактацыі.

**Паляўнічаму Брагінскага раёну**. Кожны паляўнічы павінен мець і чытаць сваю часопіс „Паляўнічы Беларусі“. Калі ў вас пры ячэйцы ёсьць хата-чытальня, то неабходна, каб там былі ўсе цікавячыя вас часопісі і газэты.

**І. Сідарэнку**. Усе бадзячыя сабакі належаць да зьнішчэньня. Калі сабака мае нашыйнік, гэта сьведчыць, што ў яе ёсьць уласьнік. Гэтых сабак, а такама 1 сабак паляўнічых, трэба лавіць і перадаваць праз паляўніцкую ячэйку або сельсавет уласьнікам. Тых-жа ўласьнікаў сабак, якія наогул ня трымаюць сваіх сабак на прывязі, трэба прыцягваць да адказнасьці ў адміністрацыйным парадку.

**Д. Галезьніку.** Сабак, якія гоняць казу, забіваць нельга, а трэба прымаць усе меры да таго, каб гэтага сабаку злавіць. Калі будзе даказана, што сабака наўмысьля накіравана на сьлед казы, то трэба прыцягнуць уласьніка яго да адказнасьці, як за браканьерства.

**Шчагалеву Уладзімеру**. Зараз племянны матар'ял з трусятнікаў не выдаецца. Вам трэба скарыстаць мясцовую пароду трусоў. У гэтым годзе ўвосень трусятнікі „Белкохотсоюзу“ будуць выдаваць трусоў на ўмовах контрактацыі. Будуць трусы парод: „Шэншыль“ і „Белы велікан“.

**Крэмезу Сымону.** Дазвол на нашэньне і хаваньне рэвольвераў выдае ДПУ. Каштоўнасьць рэвольвераў розная, і ўзнаць гэта вы можаце ў ДПУ, або ў спартыўным таварыстве „Дынамо“.

**Шэўчэнку В.** Член саюзу паляўнічых прадаваць стрэльбы ня членам саюзу паляўнічых ня мае права. Па дазволах, выданых міліцыяй для набыцьця і хаваньня аружжа, можна купляць яго толькі ва ўстановах, гандлюючых аружжам.

## Паштовая скрынка.

**Ягорку**.—Апавяданьне „Апошні перадом“ ня пойдзе. Кепска апрацована, аддае наіўнасьцю. **Віткоўскаму**.—„Добры паляўнічы“ ня пойдзе, дробязь. **Бабчонку**.—„Как это назвать“ ня пойдзе, дробязь. **Сьцяпану Глушчу**.—„Уношу прапанову“ ня пойдзе. Ваша прапанова добрая і яна практыкуецца зараз рэдакцыяй, а заводзіць нейкі асобны аддзел наша часопіс ня мае магчымасьці. **Якаўлеву**.—Вершы „У лясной цішыні“—слабыя, неапрацаваныя. Друкаваць ня будзем. **Ганжыну**.—„Паляваньне на пташку рабчыка“ ня пойдзе; аб гэтым шмат пісалася. **Сарачынскаму А. Д**.—Вашых сем вершаў друкаваць ня будзем, бо яны да друку не падыходзяць. **Ціхончыку І**.—„Нада чыстка паляўнічых“ ня пойдзе. Падайце факты ў райбюро ці нам, калі ёсьць такія выпадкі 2. „Больш актыўнасьці да паляваньня“ ня пойдзе. Аб гэтым шмат пісалася. **Ягорку**.—Вершы „Спеши“ і „Белкохотсоюз и пятилетка“ ня пойдуць. Спазьніліся і страцілі каштоўнасьць, паколькі прысьвечаны гадавальніку сабак і падпісцы на часопісь. **Жаўруку А**.—Вершы „Госьць“ слабыя. **Ржэўскаму**.—„Аб памятке кроликовода“ ня пойдзе. Тав **Зубароўскі** у гэтай „Памятке“ даў пэўныя паказаньні тым, хто разводзіць трусоў. „Пушныя нарыхтоўкі“ спазьніліся, а пра Белдзяржгандль вы ня далі фактаў, ды аб гэтым ужо і пісалася. Апошняе ўсё скарыстаем. Пішэце. **Зорскаму**.—Вершы „Пороша“ будуць надрукованы ў адным з бліжэйшых нумароў.

*Адказны рэдактар:* **Міх. Шмідт.**

ЦАНА 30 КАП.

# АДКРЫТА ПАДПІСКА

4-ты год выданьня

## на 1930 год

4-ты год выданьня

НА ШТОМЕСЯЧНЫ ЧАСОПІС ТЭОРЫІ І ПРАКТЫКІ

Орган „БЕЛКОХОТСОЮЗА“

# „ПАЛЯЎНІЧЫ БЕЛАРУСІ“

„ПАЛЯЎНІЧЫ БЕЛАРУСІ“ шырока адбівае пытаньні аднаўленьня паляўнічай гаспадаркі, працу ахоткаапэрацыйн. арганізацый Беларусі і жыцьцё на мясцох

„ПАЛЯЎНІЧЫ БЕЛАРУСІ“ дапамагае правільнаму вядзеньню паляўнічай гаспадаркі, зьверагадоўлі, сабакагад. і г. д.

„ПАЛЯЎНІЧЫ БЕЛАРУСІ“ адбівае пытаньні барацьбы з драпежнікамі і браканьерамі

„ПАЛЯЎНІЧЫ БЕЛАРУСІ“ знаёміць чытача з жыцьцём і норавамі жывёлы

„ПАЛЯЎНІЧЫ БЕЛАРУСІ“ знаёміць сваіх чытачоў з паляваньнем за граніцай

„ПАЛЯЎНІЧЫ БЕЛАРУСІ“ дае парады чытачом і зьмяшчае афіцыйныя пастановы і распараджэньні Ўраду, якія маюць сувязь з пытаньнем паляваньня

„ПАЛЯЎНІЧЫ БЕЛАРУСІ“ асьвятляе больш важныя палітычныя пытаньні краіны

„ПАЛЯЎНІЧЫ БЕЛАРУСІ“ садзейнічае разьвіцьцю кроўнай сабакагадоўлі і палепшаньню прамысловае сабакі

**У ЧАСОПІСІ ПРЫМАЮЦЬ УДЗЕЛ ЛЕПШЫЯ НАВУКОВЫЯ СІЛЫ БЕЛАРУСІ, А ТАКСАМА НАВУКОВЫЯ СІЛЫ ІНШЫХ РЭСПУБЛІК, ПРАКТЫКІ ПАЛЯЎНІЧАЙ КААПЭРАЦЫІ, ПІСЬМЕНЬНІКІ, БЭЛЕТРЫСТЫ і г. д.**

## УМОВЫ ПАДПІСКІ:

| | | | |
|---|---|---|---|
| На год . . . | 2 руб. | На 3 месяцы . . . | 70 кап |
| „ паўгода . . | 1 руб. 20 к. | Асобны нумар каштуе | 30 кап. |

**УСЕ ГАДАВЫЯ ПАДПІСЧЫКІ КАРЫСТАЮЦЦА 15% СКІДКАЙ НА ЎСЕ ВЫДАНЬНІ „БЕЛКОХОТСОЮЗА“**

**„ПАЛЯЎНІЧЫ БЕЛАРУСІ“ на 1930 г. З ДАДАТКАМІ 2-х КНІЖАК:**

**3 р. 50 к.** 1) Проф. А. В. Федюшин—Динамика и географическое распространение охотничьей фауны БССР . . . . . **На год**
2) Проф. Елагин—Доходное кролиководство . . . . . .

**ПАДПІСКА ПРЫМАЕЦЦА:** ва ўсіх паштовых аддзяленьнях, усіх райбюро калектыву саюзу паляўнічых, акруговых праўленьнях і ў ЦП Белкахотсаюзу (г. Менск, Савецкая, 71).

Галоўлітбел № 1565. у ліку 17000 экз. Менск, друк. БДВ, зак. № 1466.